# Кузьма Чорны



## ЗБОР ТВОРАЎ У ШАСЦІ ТАМАХ





Падрыхтоўка тэкстаў і каментарыі
Аляксея Рагулі і Рагнеды Раманоўскай

# Кузьма Чорны



## ТОМ ПЕРШЫ



АПАВЯДАННІ
ПУБЛІЦЫСТЫКА

1923—1930

МІНСК
«МАСТАЦКАЯ ЛІТАРАТУРА»
1988

# ЧАЛАВЕК — ГЭТА ЦЭЛЫ СВЕТ

## 1

Неаднойчы ў хвіліну душэўнай развагі, праніклівага сузірання бясконцых багаццяў стыхіі, якая завецца жыццём, паўтараў ён глыбокую і простую думку: «Чалавек — гэта цэлы свет». Так сведчаць многія, хто сустракаўся з ім. Яшчэ любіў ён гаварыць, што людзей, якіх уведаў па родных Цімкавічах, хопіць яму на мноства раманаў, на ўсё яго пісьменніцкае жыццё. Многія з тых раманаў ён напісаў, і мы, чытачы, сапраўды пераканаліся, што чалавек — гэта цэлы свет, што каб увасобіць гэты свет у слове, трэба мець фантазію і талент такога мастака, якім быў Кузьма Чорны.

Самай адметнай ягонай рысай у творчасці і ў жыцці была шчодрасць. Шчодрасць на мастацкую самааддачу, шчодрасць на ўражанні, і адсюль — шырыня і смеласць яго задумы. І яшчэ быў ён шчодры на пахвалу другому пісьменніку. Ён не ведаў над сабой хваравітай і ўчэпістай улады зайздрасці. Як кожны сапраўдны пісьменнік, ён адчуваў і разумеў, што ў літаратуры ніколі не будзе цесна талентам; цесна тым, хто становіцца ў чаргу па лаўры. Праца пісьменніка — цяжкая праца, і той, хто як мае быць спраўляецца з ёй, варты павагі. Майстра заўсёды ацэніць роўнага сабе. Ён ведаў, што ў літаратуры перамагае толькі чалавечае і чалавечнае, а фальш, пустазвонства, бяздумная даніна чарговай модзе, колькі б яны ні прэтэндавалі на жыццё ў слове, на ўвагу сучаснікаў ці нашчадкаў, урэшце будуць названы сваімі імёнамі. Пісьменнік мае права на сумненні і няўдачы, але толькі не на факірскі фокус перад чытачом, бо гэта — несур'ёзна, ды і заўсёды знойдзецца хто-небудзь, каб з выразам «святой прастаты» сказаць, што кароль голы.

Доўга і няўхільна развіваў Чорны ў сабе здольнасць мысліць гістарычна: без гэтага ён не стварыў бы ні «Любы Лук'янскай», ні «Бацькаўшчыны», ні «Трэцяга пакалення», ні «Пошукаў будучыні». Яму хацелася ўвасобіць мастацкімі сродкамі гісторыю свайго народа, асэнсаваць яе, звязаць сучаснае і мінулае. З такім жа

клопатам падыходзіў ён і да роднай літаратуры. У пісьме да Коласа ў час Айчыннай вайны ён піша: «Я глыбока ўпэўнен у тое, што ніколі, як цяпер і ва ўсе наступныя гады, беларускі пісьменнік будзе і гісторыкам, і крытыкам літаратуры, і даследчыкам яе. І толькі так, скарыстаўшы ўсё нам дадзенае, мы недарма для нашага народа і роднай зямлі пражывём сваё жыццё».

У гэтых словах — увесь Чорны.

Чорны быў эпікам. Гэта агульнавядома і агульнапрызнана. Але аднаго гэтага прызнання для таго, каб больш глыбока зразумець ролю і месца пісьменніка ў нашай літаратуры, відаць, мала. І сапраўды, чаму на долю Чорнага выпала быць аўтарам непаўторных, глыбока народных і нацыянальных па духу эпічных палотнаў? Пытанне можа здацца наіўным, скажуць: такі быў склад яго мастацкага мыслення, такая прырода таленту. З гэтым, вядома, нельга не згадзіцца, але ж пісьменніцкая сутнасць з найбольшай сілай праяўляецца тады і там, дзе ёсць прастор для гэтага праяўлення, дзе ёсць не толькі суб'ектыўна-асабістая, але і вышэйшая, аб'ектыўная неабходнасць.

Як разумець гэта ў дачыненні да Чорнага?

Ёсць пэўная заканамернасць у тым, што кожная літаратура, выяўляючы сябе як нацыянальную, у сваім станаўленні, развіцці праходзіць стадыю «эпічнасці», якая, у сваю чаргу, выклікаецца, калі можна так сказаць, «эпічнасцю» самой рэчаіснасці. Гегель гаворыць, напрыклад, пра «самабытны паэтычны стан свету, якім характарызуецца свет, у сувязі з чым узнікае эпас ва ўласным сэнсе». Эпас нараджаецца ў пераломныя моманты жыцця народа і першапачаткова ў перыяд фарміравання яго самасвядомасці, і таму ў эпасе мы заўсёды знаходзім найбольш поўнае выяўленне культурнай, гістарычнай, этнаграфічнай адметнасці народа, пазнаём яго нацыянальны дух.

«Новая зямля» Я. Коласа — эпас, энцыклапедыя жыцця беларусаў у адзін з самых адказных перыядаў нацыянальнага жыцця — напярэдадні першай рэвалюцыі. «Вайна і мір» Талстога — з'ява непаўторная, глыбока адметная ў сучаснай пісьменніку сусветнай літаратуры перыяду, калі, паводле таго ж Гегеля, найбольш прымальнай і арганічнай для рамана калізіяй быў «канфлікт паміж паэзіяй сэрца і супрацьстаячай прозай адносін» — маецца на ўвазе раман так званы сямейна-бытавы, сацыяльна-псіхалагічны. І пасля гэтага становіцца зразумелым, чаму Талстой звяртаецца менавіта да эпохі 1812 года, эпохі, якая з такой небывалай сілай выявіла рускі нацыянальны дух, творчую ініцыятыву народных мас, паслужыла штуршком да выспявання паэзіі Пушкіна — першага рускага нацыянальнага паэта.

Эпас Чорнага — гэта эпас жыцця народа, які толькі ў рэва-

люцыі пазнаў самога сябе, заваяваў права на свой «пачэсны пасад між народамі». Новая, савецкая рэчаіснасць для Чорнага і ёсць тая самабытная, натуральная, а значыць, эпасная рэчаіснасць, да якой заканамерна ішло развіццё гісторыі — і ў гэтым руху гісторыі, ва ўрачыстасці яе поступу — аснова эпічнай канцэпцыі Чорнага, яе самы галоўны і натуральны выток. А ў такой вось мастацкай залежнасці ад рэчаіснасці — аб'ектыўная, высокая неабходнасць творчасці Чорнага, тая неабходнасць, якая робіць яго вялікім пісьменнікам.

## 2

Чорны-апавядальнік неспадзявана моцна і арыгінальна пачынаецца з апавядання «Будзем жыць». І калі ўжо гаварыць пра пэўныя мастацкія тэндэнцыі аўтара, пра першапачатковае зерне яго ранняй манеры, дык шукаць іх трэба іменна тут. Бо іменна тут яскрава, выразна абзываецца адна з галоўнейшых тэм маладога Чорнага — тэма радасці. Радасць, радасць, радасць — будзе цяпер гучаць літаральна ў кожным апавяданні Чорнага. Узятая спачатку ў даволі абстрактным, бадай агульначалавечым плане, яна будзе паступова канкрэтызавацца, стане радасцю новага, савецкага жыцця, радасцю чалавека — гаспадара ўсяго навакольнага.

Важка, стрымана, спакойна, але неяк шматзначна пачынаецца апавяданне «Будзем жыць»: «Камандзір палка быў заўсёды маўклівы і хмуры, бо адчуваў тую вялікую адказнасць, якая ляжала на ім.

Выслухаўшы разведчыкаў і разгледзеўшы карту-трохвёрстку, ён паволі падняўся з пажоўклай, мерзлай травы і падышоў к вялікаму рабінаваму кусту, дзе каля тэлефона сядзелі начальнік штаба палка, ад'ютант і маладзенькі, вясёлы тэлефаніст».

Так Чорны робіць першы мазок, знаходзіць адзін з апорных пунктаў твора — «вясёлага» тэлефаніста. Так пачынаецца разгорнутае, дакладнае «анатаміраванне» пачуцця радасці, узятага ў самых разнастайных аспектах.

Чаму радуецца тэлефаніст? Пачуўшы словы камандзіра аб наступленні, ён «быў рад гэтаму, бо яму ўжо надаела вось ужо некалькі дзён сядзець на адным месцы ў кустах і кожную гадзіну прымаць тэлефанаграмы аб тым, што ўсё спакойна». Спакойна для тэлефаніста — дрэнна; найбольш звыклыя, натуральныя абставіны для яго — гарачка бою, дзеянне. Бой для яго — радасць. Зусім інакш думае, успрымае навакольнае жыццё жанчына на хутары, што непадалёк ад месца бою. Страляніна, насцярожанасць спараджаюць у ёй абыякавасць, парушаюць усякую душэўную, арганічную сувязь з наваколлем. І калі на хутары паяўляюцца

чырвонаармейцы, прыносяць параненага тэлефаніста, калі яна «бачыла, што кругом хутара спакойна і ціха, усё тое страшнае, што прымушала яе хавацца ў склепе і хрысціцца, недзе знікла». Яна выходзіць на двор: «шэрая, мёрзлая зямля блішчала ад месяца, каля цёмнага гумна бялеў стог саломы, а направа чарнелі знаёмыя чорныя кусты. І ў жанчыны стала з'яўляцца радасць».

Жанчына і тэлефаніст успрымаюць навакольнае па-рознаму, але ў іх успрыняцці ёсць і нешта агульнае: гэта тое, што розныя абставіны выклікаюць у іх аднолькавы настрой і што ў гэтых розных абставінах таксама ёсць агульнае — звыкласць.

Хворы Ігнась Альховік у кепскім настроі вяртаецца ад доктара («Новыя людзі»). У полі ён чуе, як вецер даносіць з горада «зыкі» музыкі. «Яны ў адчуваннях Ігнася пераблыталіся са свежым паветрам, з белізной снегу, з нейкім чуць прыкметным пахам прасторы і з прывычным з маленства роўным і родным выглядам абшару поля. І іменна ад таго, што зыкі зліліся са звычайнасцю палявога выгляду, прынеслі яны чалавеку супакаенне».

Так Чорны сам раскрывае зыходны свой аспект у даследаванні пачуцця, якое цікавіць яго.

А цікавіць яно яго таму, што ён хоча дадумацца, «ці ёсць на свеце прычыны для пастаяннай чалавечай радасці» («Андрэй Клыга»).

Дык, можа, Чорны знайшоў ужо гэтыя прычыны, і менавіта ў звыкласці, усталяванасці чалавечых адносін? Не! Звыкласць для Чорнага — толькі штуршок, умова для больш высокай, больш асэнсаванай радасці. Гэта толькі першая ступень.

Радуецца, што нарэшце скончыцца нуднае зацішша, «вясёлы» тэлефаніст. Адчувае супакаенне ад таго, што скончыўся бой, хутарская жанчына. Але вось чаму радуецца побач з тэлефаністам ад'ютант камандзіра палка: «Таму, што «трэба біць», быў рад і ад'ютант камандзіра палка, але ад другой прычыны.

Яму было непрыемна і цяжка ад таго, што прыходзілася адступаць, аддаваць крок за крокам родную савецкую зямлю белым ворагам». Маштаб у вымярэнні радасці мяняецца, ён расце, ён перарастае адасоблена-псіхалагічны план, набывае сэнс грамадскі. Да гэтага маштабу падключае Чорны нарэшце і хутарскую жанчыну. «Жанчына паслухала, як паціху сціхалі гэтыя кароткія і сухія зыкі, і з думкай у галаве — памагчы санітару пры раненых, пайшла ў хату». Невыразная, яшчэ неўсвядомленая, стыхійная радасць Ігнася Альховіка набывае большую канкрэтнасць тады, калі ён пацягнуўся да грамадскага жыцця, да таго новага, што прынесла рэвалюцыя ў вёску. «І стала ў Ігнася ўкараняцца і спець нешта ўжо знаёмае ды новае па сваёй вялікасці і шырыні».

Наўрад ці трэба гаварыць, што прыйсці да такога вырашэння

псіхалагічнай тэмы было падзвычай важна для Чорнага. Усвядоміць і заўважыць гэта важна і для даследчыка творчасці Чорнага. Бо калі не зрабіць так, астанецца паўтараць малавыразныя, агульныя фразы аб тым, што нібыта пісьменнік у ранні перыяд творчасці загразаў у псіхалагічных нетрах, празмерна корпаўся ў хваравітай чалавечай душы і г. д.

### 3

Справядліва кажуць: чытача цікавяць толькі тыя пошукі пісьменніка, якія завяршаюцца творчай удачай. Або яшчэ: важна не тое, як ты шукаеш, але тое, што ты знайшоў. Сказаным, вядома, ніяк не апраўдваецца (прынамсі, не павінна апраўдвацца!) пазіцыя тых пісьменнікаў і тых крытыкаў, якія часта схільны глядзець на пошукі як на даніну маладосці: маўляў, чаго вы, шукальнікі, хочаце? Была пара — і мы шукалі, і мы начамі не спалі ад закаханасці ў прывідныя чары няўрымслівай музы, а цяпер вось пішам паціху ды патроху, і, здаецца, не горш выходзіць, чым у людзей.

О гэтая мудрасць — багацце людзей, якія ўжо збяднелі на цэлую маладосць!

Сапраўдны пісьменнік кожны новы раз садзіцца за стол з адчуваннем, што ён нічога не ўмее,— і колькі разоў паўтарае ён пакутлівыя фетаўскія радкі:

О если б без слова
сказаться душой было можно!

Але справа ў тым, што без слова пісьменніку нельга. З соцень слоў адбіраецца адзіна патрэбнае, але і яно не заўсёды засцерагае ад няўдачы, якую з бязлітаснай жорсткасцю пасведчыць неўзабаве крытык. Ды толькі няўдача — не прысуд пісьменніку, бо нават там, дзе чытач, а часта і крытык бачыць няўдачу, пісьменнік ведае: вось тут ён нешта знайшоў, хоць і не здолее сказаць, калі гэта знойдзенае стане зародкам, цэнтрам новага. Кожны новы твор пісьменніка — не механічнае счапленне ранейшых знаходак, а пэўны якасны скачок, пераасэнсаванне, крызіс ранейшых прыёмаў, мастацкіх канцэпцый. Вось чаму пісьменнік заўсёды садзіцца за стол як бы ўпершыню.

У апавяданнях «На пыльнай дарозе», «Хвоі гавораць», «Буры», «Начлег у вёсцы Сінегах» Чорны нечакана паўстае перад чытачом у новай якасці і ў новай манеры: ён уводзіць аўтарскае «я», пачынае гаварыць ад імя лірычнага героя. Імкненне да характару, які быў бы пададзены аб'ектыўна-мастацкі, абярнулася характарам лірычным. Адбылося пераасэнсаванне мастацкага матэрыялу,

новая арганізацыя яго. Чорны прыйшоў да ўдачы праз ранейшыя няўдачы. Герой, не страціўшы сваёй жыццёвай рэальнасці, стаў мастацкім адкрыццём. Не стыхійнае пачуццё радасці, не гімны ёй арганізуюць цяпер твор, а тое, як радасць адбіваецца ў чалавеку, мяняе яго сутнасць. А гэтая ўжо новая сутнасць, у сваю чаргу, робіцца сілай дзейснай, пачынае ўплываць на жыццё.

Задача Чорнага, як і раней, астаецца нязменная. Як і раней, імкнецца ён дайсці, ці «ёсць прычына для пастаяннай чалавечай радасці», як і раней, настойліва даследуе ён жыццё, паварочвае яго да героя і героя да яго. Але герой ужо не той. Гэта не носьбіт стыхійнай радасці, герой ужо ў апавяданні «Хвоі гавораць» кажа пра сябе: «Я цяпер успамінаю, адчуваю і думаю». Або: «Цяпер, часам у хвіліны бур і вострых пакут духу, я думаю так: калі шукаць ці ствараць апраўданні ўсяму, то смутак, напрыклад, можа мець апраўданне, што для таго ён, каб пасля яшчэ больш ацаніць радасць».

Герой пасталеў, ён шмат перажыў, ён мае не толькі жыццёвую, але і духоўную біяграфію.

Зайздросная рыса ў гэтага чорнаўскага героя: юнак, які яшчэ не скінуў зрэбнай вясковай світкі, які арэ бацькаву зямлю перад тым, як ехаць паступаць вучыцца ў горад («Хвоі гавораць»), юнак гэты жыве надзіва багатым, напружаным жыццём, як бы нанова вырашае для сябе і для людзей адвечныя пытанні быцця, маралі, сэнсу жыцця. Яму мала ўжо адчуваць радасць, ён хоча ўжо радасці для другіх, ён стараецца зразумець, як прыходзяць да чалавека і пакуты і радасць. Вось яго «даследчыцкае» крэда. «Смех — часта дзындра сумных настрояў і сталых думак. Адгэтуль я праводжу раўналежнасці пры маіх разгадках усяго — сяджу над канавай, гляджу на босыя, каравыя ногі дзядзькі Язэпа і думаю: увесь час ён маўчыць — значыцца, у яго многа важнага ў душы: у яго многа слоў».

Не баючыся можна сказаць, што ў гэтым і мастацкае, і даследчыцкае крэда самога Чорнага, які бачыць, як і яго герой, свет у адзінстве супрацьлегласцей. На гэтым поглядзе, як на прыёме, было пабудавана адно з самых першых чорнаўскіх апавяданняў «Будзем жыць». Цяпер тое, што раней было толькі прыёмам, стала сутнасцю героя, яго духоўным аблiччам.

Паставіўшы ў цэнтр апавядання лірычнага героя, Чорны па-новаму арганізуе мастацкі матэрыял. Калі ў ранейшых апавяданнях герой у Чорнага яшчэ ва ўладзе абстрактна-пачуццёвай стыхіі, дык тут ён паказаны ў рознабаковых, разгорнутых сувязях з жыццём. Герой — цэнтр, жыццё — перспектыва з буйнымі і малымі планамі. Чорны авалодвае аб'ёмнасцю, рэльефнасцю мастацкага пісьма.

У ранейшых апавяданнях сувязь героя з жыццём, падзеямі найчасцей самая пачуццёва-непасрэдная. Герой, скажам, трапляе па сход, дзе гавораць пра новае жыццё, і ўсю яго істоту захліствае адчуванне «новай радасці» і г. д. У апавяданні «Хвоі гавораць» пачуццёва-непасрэдная сувязь героя са з'явамі навакольнага жыцця парушаецца, яна робіцца апасродкаванай. Па-за героем жыццё адчуваецца само па сябе як аб'ектыўная рэальнасць. Яго цячэнне, планы, усё новыя і новыя цэнтры надаюць апавяданню рух, жыццёвую паўнату і пераканальнасць. Лірычны элемент, як бачым, зусім не выключае элемента эпічнага. Тое новае ў жыцці вёскі, што раней Чорны імкнуўся падаваць буйным планам, цяпер як бы адсоўваецца на другі план. Але пісьменнік робіць гэта, вядома, не таму, што яго менш цікавіць новае. Наадварот, пададзенае як рэальнасць, незалежна ад героя, яно набывае асаблівую пераканальнасць, што мяжуе з дакументальнасцю.

Герой апавядання сядзіць з дзядзькам Язэпам на прызбе і чуе, як у папоўскім доме «некалькі камсамольцаў на ўсю вёску спрачаюцца над кніжкаю тэорый Дарвіна». У папоўскім садзе ходзяць і спяваюць дзяўчаты. «Спяваюць моцна, бо ведаюць, што поп, выселены ў другую палавіну дома, любіць цішыню». Адзін штрых, кінуты як бы мімаходзь, гаворыць чытачу больш, чым прамовы аб новым жыцці, якія выслухоўвалі героі ранейшых апавяданняў на сходах.

Новае арганічна ўваходзіць у жыццё людзей, вызначае іх паводзіны, адносіны адзін да аднаго. Язэпава дачка Дося ходзіць вечарамі з практыкантам-каморнікам, студэнтам. Мікалай (галоўны герой) кахае Досю, кахае высокім, чыстым пачуццём: «Мне страшна хочацца схваціць яе за рукі і імчаць некуды далёка, за сухую атаву, за бясконцае поле. Імчаць, пакуль яна не заплюшчыць вачэй і не задрэмле. Тады я палажу яе на зямлю, абвеяную вятрамі і выхаджаную людзьмі, буду глядзець на яе, і тады ў мяне складуцца вялікія гімны». Мікалай раўнуе Досю да практыканта, але не адважваецца сказаць ёй пра свае пачуцці. Ён развакае: «І якое ты маеш права злаваць на яе? Хто цябе паставіў на гэтую пасаду? І хто мае права ставіць каго над кім-небудзь?» З такой павагай да жанчыны, да пачуццяў другога чалавека можа разважаць юнак, які зведаў ужо «новую радасць», пачуццём і розумам спазнаў новае жыццё, ідэалы і маральныя нормы якога сталі для яго арганічнымі, сталі яго сутнасцю.

«Новая радасць» перастала быць абстракцыяй. Чалавек ужо не носьбіт пачуцця, а жывы характар. У плане мастацкім Чорны пановаму пераасэнсоўвае матэрыял, знаходзіць новыя суадносіны паміж героем і жыццём, мяняе кампазіцыйную функцыю мастацкага факта. Пісьменнік робіць першы крок да эпікі.

Ідучы да псіхалагічнай канкрэтызацыі героя, да «малекулярнага разглядвання» (Ляонаў) чалавека, Чорны ні ў якой ступені не губляе высокай меркі пры ацэнцы чалавека і падзей. Наадварот, у апавяданнях «Буры», «На пыльнай дарозе», «Начлег у вёсцы Сінегах» ён выяўляе надзвычай сталае разуменне ролі чалавека ў тых грандыёзных сацыяльных пераўтварэннях, у тых «бурах», што бушавалі ў паслярэвалюцыйным жыцці. Па-новаму пераасэнсоўвае, паглыбляе Чорны разуменне новага як стыхіі, як вялікага парыву да сацыяльнай праўды, да пераацэнкі ўсяго старога. Чалавек уцягнуты ў вялікі вадаварот падзей, «бур», вялікія спусташэнні і пакуты ўрываюцца часам у яго жыццё, але ён не згінаецца, і чалавечая трагедыя вырашаецца аўтарам як трагедыя аптымістычная. Ранняя сталасць і суровасць кладуцца на твар вясковага хлапчука, плечы яго трымаюць недзіцячы цяжар («На пыльнай дарозе»), але «ад таго, што гэтае дзіцянё не сагнулася і не сагнецца, ідзе сабе моцна па дарозе,— стала мне радасна і думна!» Гіне ў баі таварыш Сіменюк («Таварыш Сіменюк»), але не гіне справа, за якую ён змагаўся. «Уночы мы ідзём росным гасцінцам. Вечнае расцвітанне зямлі поўніць нас салодкай трывогаю сэрца. І які ўздым ад глыбокіх слядоў чалавечых бур!» На начлезе ў вясковай хаце чырвонаармеец становіцца сведкам трагедыі ваеннага дзяцінства: на світанні маці будзіць малога:

« — Сынок, устань...

— Ай, мама...

— Устань, сынок. Ну хто ж устане? Ты самы большанькі.

— Я яшчэ хоць трохі пасплю...

— Заснеш удзень, а цяпер — ну каго ж я пабуджу?

Хлапчанё заплакала».

Чырвонаармеец просіць маці:

« — Няхай хлапчук паспіць яшчэ трохі, няхай гадуецца.

— Ну, а што я зраблю? — гаворыць яна раптам.— Што я адна параджу? Гаспадара няма, гаспадар ваюе».

«Я пайшоў у сенцы. У сваіх мяшках я нічога не знайшоў, апроч двух тараноў. Я дастаў іх і палажыў у хаце на лаве — уся мая салдацкая ежа.

. . . . . . . . . . . . . . . . . . . . . . . . . . . . . .

І от мы ідзём.

Будзем ісці доўга — вялікі паход скупы на адпачынак».

Такім урачыста-стрыманым, трагічным і адначасова аптымістычным акордам завяршаецца выдатнае апавяданне «Начлег у вёсцы Сінегах».

Калі ў апавяданні «Хвоі гавораць» сучасная Чорнаму вёска, а герой — яго аднагодак, дык лірычныя навелы — гэта як бы перадгісторыя тых падзей, той «новай радасці», што прыйшла на пасвяжэлую пасля вялікіх сацыяльных бур ніву народнага жыцця. Чорны вяртаецца назад, каб яшчэ з большай сілай падкрэсліць веліч заваяванага рэвалюцыяй. Чорны, як аратай, вядзе сваю баразну ў два бакі, вядзе яе настойліва, не спяшаючыся, і калі ў палавіне дня (о, яна яшчэ далёка!) сядзе адпачыць на ўзмежку, перад ім будзе вялікі загон свежаўзаранай зямлі. Будзе ясны яго поўдзень, ясны і высокі.

Яшчэ мастацкі рост Чорнага можна параўнаць з дрэвам, што гонка расце ўгору, выкідваючы ўсё новыя і новыя парасткі з маладымі лісткамі. І ў кожным лістку — новы парастак, і кожны новы парастак зноў выкіне лісток.

Пройдзе многа год, і недзіцячае гора хлапчука, што стаіць у роспачы на дарозе над змораным, заезджаным канём («Буры»), турботлівыя сны яго аднагодка з апавядання «Начлег у вёсцы Сінегах» абзавуцца пакутным пастушковым дзяцінствам Міхала Тварыцкага ў «Трэцім пакаленні», суровай дачаснай сталасцю Кастуся Лукашэвіча і Волькі Нявады з «Пошукаў будучыні».

5

Апошнім часам слушна гавораць пра блізкасць Чорнага да Дастаеўскага.

Яшчэ раней шмат гаварылі, што ў Чорнага свой, злакалізаваны ледзь не да межаў Цімкавіч і разгорнуты тым часам да універсальных адзнак усялюдскасці свет.

Усё гэта праўда, усё гэта так.

У Дастаеўскага таксама свой свет. У чым жа розніца і ў чым падабенства іх светаў?

Падабенства ў «ідэалагічнай» замкнутасці вобраза чалавека, у дапушчальнай раўназначнасці ідэі, якой надзелены кожны персанаж. Ідэі сутыкаюцца і тым часам як бы суіснуюць. Наяўнасць спрэчкі, дыялогу, дэкларацыя права кожнага персанажа на сваю праўду — характэрныя для Дастаеўскага і Чорнага.

Разыходжанні пачынаюцца там, дзе справа тычыцца выхаду ў матэрыяльны і сацыяльны свет.

Дастаеўскі ў нейкім эстэтычным парыве свядома ці несвядома пазбаўляе чалавека радасці ад сузірання з'яў «жывога жыцця»: чалавек у пэўным сэнсе апыняецца як па-за побытам, так і па-за прыродай. Паспрабуйце ўявіць, чым займаюцца героі Дастаеўскага ўвесь той час, калі не «заяўляюць сваё свавольства» і не вырашаюць сваю пакутлівую «ідэю». Зрабіць гэта будзе цяжка.

А ягоны пейзаж?

Нагрэтыя камяніцы пецярбургскіх кварталаў, ад гарачыні паветра аж трымціць, цяжка стукае чалавеку ў скроні: чалавек, здаецца, вось-вось страціць прытомнасць. Брудныя, пракураныя тракціры з абскубанай канарэйкай. Змардаваны душэўнымі пакутамі, утрапёны, глядзіць адсюль чалавек на брудную вуліцу, дзе перадвечаровы вецер мяце па бруку шорсткі пясок. Жоўтае, бяссільнае, як скон, лье на захадзе святло нізкае сонца. Чалавек выходзіць на вуліцу. Душэўная ўзрушанасць гоніць яго ў невядомасць, а на захадзе шчымліва гарыць, плавіцца, памірае барвовая палоска вечаровай зары: гэта аднекуль здалёк, з невядомасці падаюць чалавеку знак другія светы. Пра што яны кажуць? Пра недасяжнасць гармоніі на гэтай зямлі, пра недасяжнасць гармоніі наогул?..

6

«Пяць дзён свяціла сонца, дарогі ўсё пахлі вільгаццю пасля дажджоў — чорныя з жоўтымі адценнямі гліны. Іржышча было такое пустое і такое ціхае. І ад сонца здавалася шырокім усё: і глыбокае неба, і спустошаная на зіму ўраджаем зямля, і нават дробны камень пасярод палявой травы і зрэзанай саломы,— усё да туманнай сіні блізкіх лясоў, да рэчак і азёр, да дзеравяных хат і мураваных будынкаў, да ўсяго маладога і вялікага, сярод чаго так пазнаны былі вялікія бунты радасці і смутку».

Або:

«Зямля — як размах чалавечай радасці — шырокая, бяскрайняя, здольная будзіць вялікія імкненні пачуцця і думак».

Гэта, вядома, Чорны. Калі хочаце, назавіце гэта ўхвалай гармоніі.

7

Асноўная адзнака ягонай творчасці — менавіта «шырокасць». Чорны любіць выводзіць чалавека на прасторы жыцця. Мадэль чалавека — свет для яго — устойлівая ў сваёй пастаяннай рухомасці. Канкрэтызацыя гэтай мадэлі (асоба — грамадства) падрыхтавана пазнаннем сацыяльнага зместу рэчаіснасці. Інакш не магло быць: Чорнага нарадзіла рэвалюцыя.

Вось чаму і пейзаж у Чорнага па-свойму сацыяльны, канцэпцыйны. Вялікія буры «радасці і смутку» паўсюль прасякаюць яго.

Пейзаж у Чорнага, нягледзячы на яго надзвычайную выяўленчую канкрэтнасць, часта выступае як адухоўленае, валявое ўва-

сабленне стыхіі прыроды, і яна ўжо, гэтая стыхія, часта зноў жа як бы імітуе, адбівае стыхію сацыяльную.

«У ціхіх скаргах непрыбранага жыта чуў я вялікія буры».

Гэта сказана ў адным з ранніх апавяданняў. Але прынцып, выказаны там, застаўся вызначальным для творчай практыкі Чорнага і, у прыватнасці, для яго пейзажу.

## 8

У пашаноўных спісах нашай літаратуры ў Кузьмы Чорнага сваё, асаблівае месца.

Адметнасць ягоная цяжкая для вытлумачэння, а таму і недастаткова яшчэ вытлумачаная, вабіць да сябе і падахвочвае да новых спроб вытлумачэння даследчыцкую думку, якая бачыць у той творчасці моманты бадай што прарочыя для ўсёй нашай прозы.

Эпічны свет Чорнага інакш арганізаваны, арыентаваны і інакш населены, чым, скажам, свет Коласа.

Агромністымі здаюцца выпрабаванні, на якія пасылае сваіх герояў Чорны, напружаная дарэшты ягоная аўтарская мова, водгулле і водбліскі нейкіх вялікіх, не адно сацыяльных, падзей чуюцца нам на старонках і за старонкамі ягонай прозы. Ён па-свойму касмічны, свет Чорнага. Правобраз гэтага свету — родныя яму Цімкавічы, пра якія ён казаў, што іх яму хопіць на мноства раманаў, сённяшняга чытача міжволі наводзяць на думку пра славутую фолкнераўскую Йокнапатофу — і не так важна, што Чорны сваю «вёсачку» (так называўся і адзін з фолкнераўскіх раманаў) быццам бы рассяліў, разгарнуў у раманным космасе, а Фолкнер, наадварот, сканцэнтраваў у ёй свой «космас»...

«Бач ты, куды шыбануў!» — чуецца мне нечы іранічны голас.

Але не трэба баяцца падобных супастаўленняў. Духоўны свет інтэграваны не менш, калі не больш, чым свет сацыяльны, і ў ягоным глыбінным «космасе» сапраўды «зорка зорцы голас падае».

Вось зноў жа — успомніў пра асаблівую і нейкую асабіста прачулую любоў абодвух пісьменнікаў да вялікага Дастаеўскага.

Мабыць, памыляюцца тыя, што гавораць пра нейкую «перыферыйнасць» творчасці Чорнага.

Амаль у касмічных духоўных межах бачыць сваю тэхаскую Йокнапатофу Фолкнер.

І ў Цімкавічаў духоўнага свету Чорнага зусім іншая «геаграфія», чым у рэальна існуючай вёсцы на Случчыне.

Зварот да творчага вопыту Чорнага амаль непазбежна спараджае пытанне пра лёс і сённяшнія магчымасці самога эпасу.

Гэта няпростая тэма.

эпас Чорнага здзейснены. І калі гэта так, дык, трэба думаць, нечаму вучыць.

У самага выяўленага з сучасных нашых эпікаў — Мележа — былі па-асабліваму любоўныя адносіны да Чорнага. І, мусіць, не толькі таму, што той некалі па-бацькоўску блаславіў яго на пісьменніцкую сцяжыну, што пасля вывела яго на шырокую дарогу арыгінальнай творчасці.

Вопыт празаіка Чорнага, мусіць, і без таго быў дарагі і патрэбны Мележу.

Спроба самога Мележа ў эпічным жанры здавалася рызыкоўнай і запозненай якраз ці не з прычыны ўсё той жа «перыферыйнасці», лакальнасці самога матэрыялу («Людзі на балоце»), але ці не гэтая перыферыйнасць і выратавала справу, апраўдала ягоную спробу? Але як надоўга? На жаль, мы не ведаем адказу. Хоць бы і таму, што эпас Мележа не завершаны, хоць бы і таму, што маятнік ягонай творчай увагі схіляўся то ў бок Чорнага, то ў бок другога эпіка — Коласа. Гэты «маятнік» яшчэ не зрабіў канчатковага выбару ў нашай прозе і сёння, тым больш што пачало ўсё больш заяўляць аб сабе і новае «магнітнае поле» — эпас Максіма Гарэцкага.

І вось зноў жа нагода для роздуму — як пра сучасны лёс жанра, так і плённасць тых ці іншых ягоных традыцый.

Далёка не простыя пытанні спараджае спроба асэнсаваць мастацкі свет і мастацкі вопыт Чорнага.

І, значыцца, не так і мала гаворыць нам сёння гэты выдатны пісьменнік.

*Міхась Стральцоў*

# НА ГРАНІЦЫ

*(Малюнак з пагранічнага жыцця)*

## I

З усходу дзьмуў халодны вецер і развяваў на пустых і шырокіх палях нудную мелодыю зыкаў бурнай ночы. Часам прыносіў ён ці то з дрымучых вёсак, ці то з цёмных лясоў многа нечага шумнага і, усхапіўшы віхурай быстрай уверх, глушыў яго сваім уласным свістам і выццём.

А ўверсе гнаў ён цэлыя шэрагі хмар, цяжкіх і чорных, якімі павялічваў змрок халоднай ночы...

Усё: і хмурнае неба, і мёрзлая чорная зямля — было ахоплена нечым сумным, халодным і грозным. І чулася яно, гэтае нешта, і ў зыках шумлівай ночы, і ў ветры, і ў цёмнай заснуўшай зямлі.

І здавалася, нешта вось тут прытаілася блізка і вокам далёкім сваім не міргае — глядзіць несупынна і пільна за ўсім скрозь шэрую ноч і скрозь бурныя зыкі яе, слухае і чуе ўсё...

У змроку няясна вырысоўваюцца два слупы — адзін процiў другога, на захад і на ўсход. За заходнім слупам — Польшча, за ўсходнім — савецкая старана, і ходзіць там чырвонаармеец.

Налятае віхор ветру, свішча і шуміць. Чырвонаармеец становіцца і слухае, потым прыгінаецца і ўглядаецца ў змрок.

Перад ім на шараватай зямлі варушыцца цёмная лапіна, крадучыся паўзе.

— Гэ-э-й, сто-о-й!..

Вецер ірве і носіць зычны водгаласак.

З цёмнай лапіны вырастае цёмная фігура і быстра ідзе на часавога.

— Стой!..

Падыходзіць чалавек і падымае рукі ўверх. Чырвонаармеец бачыць кабету. Вецер трэпле яе выбітыя з-пад вялікай хусткі валасы, абвявае і гне ўсю яе ўбок.

— Хто гэта?

— Я прыйшла з Польшчы к вам... дамоў.

Голас глухі, сіплы. Яна цяжка дыхае.

Часавы лёгенька штурхае яе наперад і паказвае дарогу:

— Пойдзем.

Кабета ідзе ўперад. Паходка цяжкая, утомленая.

Часавы ідзе ззаду.

Адвёўшы кабету ў пагранічную «каравулку», ён спяшыць назад. Перад ім далёка блішчыць маленькі агеньчык беларускай вёскі ў Польшчы.

## II

Пачыналася раніца. Вецер пачаў сціхаць. Ён сагнаў хмары ў адно месца, і яны лезлі адна на адну, ачышчаючы неба.

Часавы змяніўся і пайшоў у «каравулку».

Там на вузенькай лаўцы за маленькім столікам сядзела некалькі чалавек чырвонаармейцаў. Адзін моўчкі глядзеў у газету. Гарэла свечка. Праз два маленькія аконцы дзень нясмела лез усярэдзіну, і было відаць праз іх, як шарэла на двары.

Кабета сядзела на нізенькім зэдліку і драмала.

Яна была яшчэ зусім маладая, але на твары яе ляжаў адбітак перажытага. Цененькія маршчынкі сабраліся на яе лбе і каля рота, сінія кругі былі пад вачыма, твар увесь быў запэцканы зямлёй. Кароценькі рваны кажушок на ёй таксама быў у зямлі...

Часавы раздзеўся, набраў у кварту вады і стаў умывацца. За ім памыліся яшчэ два. Кабета падняла галаву і папрасіла дазвалення памыцца.

— Можна,— сказалі ёй.

Яна скінула хустку, падышла к вядру і стала ліць на рукі ваду.

Адзін чырвонаармеец даў ёй ручнік. Уцёршыся, яна дастала з валасоў грэбень і стала іх расчосваць.

Цяпер ёй можна было даць год дваццаць сем.

Маршчыны яе трохі разгладзіліся, але твар стаў белым, худым.

— Хто вы будзеце? — спыталіся яе.

— Я тутэйшая, вёрст за сорак адгэтуль. Прабіраюся дамоў з Польшчы. Толькі не ведаю, ці цэлы дом.

— Як вы паляку не папаліся?

— Я паўзла па зямлі.
Жанчына паказвае сваю запэцканую ў зямлю адзежу.
— А як вы папалі ў Польшчу?
— Мяне завезлі,— адказвае яна, потым садзіцца і пачынае расказваць.— Як былі тут палякі, мой брат быў тады ў войску камісарам палка. І гэта знаў наш пан. Вось, як палякі сталі адступаць, мяне забралі ў заложніцы за брата. Так хацеў пан. Гэтакіх, як я, было многа. Завезлі нас далёка ў глыб Польшчы, пад Варшаву. Заложнікаў там было з розных канцоў Беларусі, з усіх куткоў, дзе толькі былі палякі. Кабет там было не вельмі многа. Усё мужчыны, найбольш маладыя.
Жылі мы там у сырых гліняных доміках на краю вялікага мястэчка. К нам былі прыстаўлены жандары. Цярпелі здзек ад іх усе, найбольш мы — жанчыны. Мы ўсё чакалі нейкага збавення сабе і таілі ў сабе злосць на нашых старажоў-жандараў і паноў, якія нас завезлі сюды.
Выходзіць нам не дазвалялі; толькі, калі хто хацеў, вадзілі ў касцёл. З мужчын ніхто туды ніколі не хадзіў, адно некалькі чалавек кабет, у тым ліку і я. Я думала знайсці сабе ўспакаенне ў малітвах. Касцёл быў блізка, і быў ён вялікі і багаты. Людзей туды збіралася многа. На пярэдніх лаўках, бліжэй к ксяндзу, сядзелі паны. З простых людзей туды не смеў ніхто заходзіць, а станавіўся ззаду, дзе былі лаўкі горшыя. Мы станавіліся ззаду і слухалі музыку арганаў, а за намі стаяў жандар і таксама слухаў.
Так жылі мы з паўгода.
Адзін раз к нам увайшоў багаты пан. Ён доўга глядзеў на нас, а потым паказаў пальцам на мяне. Мяне вывелі за ім, а на маё месца высадзілі з панскага фаэтона другую. Мяне завезлі ў панскі маёнтак. Пан забраў мяне к сабе. Ён ужо быў стараваты, а для чаго ўзяў мяне, вы можаце дагадацца. Мучыў ён мяне з год. А потым пазваў мяне раз і кажа: вось бачыш, ты была ў палоне, нявольная, а я выкупіў цябе, а за гэта ты дала мне свой выкуп. Цяпер я адпускаю цябе. Можаш ісці, куды сабе хочаш, і павінна мне за ўсё падзякаваць.
Потым я пачула, што на маё месца ён узяў сабе другую заложніцу.
З таго дня я, абясчэшчаная панам, змучаная ім і сваім жыццём, стала «вольнай» у краіне, дзе няма волі. Я не знала, што мне рабіць. Пайшла я ў касцёл памаліцца. Хацела бога пазваць сабе ў збавіцелі, але там я ўбачыла

вось што: на самым перадзе стаяў на каленях пан, які даў мне «волю», і маліўся. Якое права ён мае маліцца пасля таго, што робіць, думала я. І стала мне тады нейк гідка ўсё, пачынаючы з пана і канчаючы касцёлам, у якім знаходзяць сабе ўспакаенне ўсе тыя, што, выйшаўшы з яго, робяць гора другім і знаходзяць сабе там, у бога, сілу для сваёй работы. З нечым цяжкім на сэрцы выйшла я з касцёла, дзе ўбачыла столькі абману і няпраўды. Прайшла я пехатой праз усю Польшчу і прыйшла цяпер сюды...

— Так,— сказаў адзін чырвонаармеец.— Цяпер мы вас скора адправім далей. Там вас дапросяць і асвабадзяць.

## III

Пацяплела. Вецер сціх. Залаціцца ціхі асенні дзень.

На двары «каравулкі» стаяць кучаю чырвонаармейцы і гавораць.

Твары іх азараны нечым светлым, радасным...

— Зусім не верыцца,— кажа адзін,— што ёсць яшчэ дзе на свеце паны і здзек чалавека над чалавекам. Неяк здаецца няпраўдай, што яшчэ і цяпер людзі могуць так жыць, жыць неразумна.

Другі голас кажа:

— Мы не верым у тое, чаго не бачым сваімі вачыма. Так часта бывае. Нам яно здаецца прыкрым. А толькі трэба ўбачыць, каб паверыць у тое, што ёсць.

Працягваецца рука і паказвае на Польшчу.

— Вось тут, недалёка, у некалькіх кроках, пачынаецца зямля, дзе ўсё гэта ёсць, дзе пануе бог і пан. Я кажу бог, бо тыя ўсе, пра якіх гаварыла гэтая кабета, моляцца богу. Просяць у яго справядлівасці і бачаць яе ў прыгоне над другімі.

— Справядліва,— кажа другі голас,— мы жывём у цікавы час. Час росквіту новай думкі, новага жыцця. Час новых людзей. Пазнала ж гэтая кабета, якая праўда ў касцёле і ў малітвах.

— За намі жывая старана. На гэтай граніцы мы пільнуем яе. Павінны мы моцна дзяржаць у руках тое, чым мы моцныя. Павінны мы пільна ўглядацца вакол. Ці ж не бачым мы, браткі, колькі новай праўды ў жыцці на нашай старане? Колькі ўсяго разумнага тут і што там, блізка, вунь за тым слупам.

— Мы адны на ўсім свеце,— чуецца голас.

— Мы адны? Мы адны пакуль што гаворым гэта ўсё смела. Але вунь там, за тым слупам і далей, па ўсёй зямлі, гэта самае гавораць нясмела. Мільёны людзей, рабочых і сялян, думаюць так, як і мы. Мы, значыцца, не адны. Мы толькі першыя загаварылі аб гэтым моцна, не баючыся. Мы першыя перамаглі эксплуатататараў. І нас усе чуюць. Чуюць і тыя, што думаюць так, як мы, чуюць і тыя, што крывяцца ад нашай думкі. Нядарам вунь той чалавек у чатырохкантовай шапцы так пільна глядзіць у наш бок з-за свайго слупа з белым арлом...

— Але няведама, што ён думае.

— Можа ён нічога не думае. Уціск вечнага панства налажыў на яго свой адбітак. Але даволі яму толькі паказаць усё, як ён стане па сваёй думцы нашым. А сярод іх ёсць і цяпер нашыя. Здаровая думка аб жыцці і барацьбе за лепшы лёс працоўных пануе ўжо па ўсім свеце, і трудна перад ёю ўстаяць старому гніламу панству здзірцаў і катаў.

Размова ідзе далей. На тварах людзей, якія пільнуюць сваю вольную старонку, лажыцца прамень светлай радасці і свядомасці.

# МАЁ ДЗЕЛА ЦЯЛЯЧАЕ

## I

Плюхаючы па лужах босымі нагамі, член сельскага Савета Юлік Карнавух шпарка бегаў ад хаты да хаты і «зганяў сход».

Ткнуўшыся тварам у аконца Мацвеевай хаты, ён ахрыпшым голасам крычаў:

— Мацвей, дзе ты там?..

Мацвей, спалохаўшыся, што Юлік гоніць у фурманку, кідаўся ў хваробу — браўся на печ і казаў адтуль жонцы:

— Тэклечка, скажы, што хворы.

— Мацвей хворы,— крычала Тэкля,— захаладзіўся, цягаючы картоплю... Усе вунь грудзі залажыла.

Ведаючы гэтую хваробу, Юлік з усмешкаю крычаў:

— Што там за трасца: куды ні кінься — усюды хворыя. На сход трэба ісці, сельсавет новы выбіраць!

— Вось мо як узвалакуся,— казаў павесялеўшы Мацвей і ўжо спускаў ногі з печы, але бачачы, што Юлік ужо прапаў з-пад акна, усцягаў ногі назад і пытаў у жонкі:

— Як ты, Тэкля, думаеш, ісці ці не?

— Як хочаш,— ціха адказала Тэкля.

Мацвей як след укладаўся на печы і мармытаў сабе пад нос:

— Чорт яго пойдзе. Пакуль зацягнешся па гэтай гразішчы, блізкі свет. Ускінь мне, Тэклечка, кажух на ногі...

— Янка, на сход! — крычаў тым часам Юлік каля другое хаты.

Янка, не спяшаючы, падыходзіў к акну і пытаўся:

— Кажаш, на сход?!

— Але, сельсавет выбіраць.

— Ну, добра,— адказаў Янка,— як людзі будуць ісці, то і я пайду.

— Што вам за трасца,— сярдзіта крычаў Юлік,— усякі, ліха яму, спадзяецца на людзей. Ты ідзі, дык і людзі пойдуць! Трэба ж каму першаму ісці.

— А чаго мне канешне ісці першаму,— у сваю чаргу злаваў Янка.— Я ж кажу — як людзі, так і я.

— А няхай вас агонь папаліць, гэтакі народ. Тфу! — пляваў Юлік і плюхаўся далей.

А Янка пазіраў праз акно, ці скора будуць ісці «людзі».

— Хвёдар,— крычаў Юлік каля трэцяе хаты,— скарэй адзявайся на сход!

— На сход? — таксама, як і Янка, дапытваўся Хвёдар.

— Але, скарэй!..

— А чаго?

— Сельсавет выбіраць. Скарэй!

— Хай ты сам скарэй,— агрызаўся Хвёдар.— Чаго ў карк гоніш, яшчэ ніхто не ішоў.

— Дык ты ідзі.

— Як усе будуць ісці, то і я. Чаго ты гэтак баішся, як бы там без мяне сходу нельга зрабіць!

— А бадай на вас трасца,— лаяўся Юлік, лезучы па гразі на другі бок вуліцы к хаце Тараса.— Папалі дурня з сабачымі нагамі.

— Тарас, дзе ты там?

— Чаго! — абзываўся перапалоханы Тарас, выбягаючы з хлевушка. «Пэўна ў фурманку»,— думаў ён.

— На сход!

— А, на сход,— гаварыў Тарас і ўжо весела падыходзіў к Юліку, з выглядам чалавека, які нейкім цудам толькі што ўсцярогся вялікае бяды.— Мо закурыш, Юлік? — даставаў ён капшук.

Юлік закурваў, а Тарас тлумачыў яму:

— Гэта я, браце, тут у хлевушку корпаюся. Думаю сабе, адгараджу павольным часам катух парсюку, а то ўчора, каб на яго ўпадкі, абярнуў жонку з ражкаю. А тут якраз свіння на парасенні...

— Дык, браце, на сход,— перабіваў яго Юлік.

— Добра, калі кончу зарання, то падыду там, паслухаю...

«А каб ты па свеце не хадзіў,— сярдзіта думаў Юлік, ідучы далей. Ён быў сярдзіты на ўсю вёску, на ўсіх гэтых людзей, якія корпаюцца па сваіх хатах і хлевушках і якіх так трудна выгнаць адтуль на сход. Яму хацелася скарэй скінуць з сябе гэты непрыемны абавязак, які прымушае яго лазіць па калені ў гразі вось ужо трэці раз дзеля аднаго і таго ж дзела.— Вось жа жыў не буду, а зганю вас, чарцей,— думаў ён,— выбірайце другога, хай ён запрабуе па дзесяць разоў брахаць каля кожнага акна». І яшчэ з большым поспехам палез ён пад акно канцовае хаты.

— На сход, дзядзька!

— Ат, канечне ўсякаму цягнуцца па гэтай гразі.

— Што «ат», трэба ж як-небудзь сельсавет выбраць.

— Ну, выбірайце, што я там вам адзін памагу. Маё дзела цялячае — пад'еў ды ў хлеў.

— Тваё цялячае, а маё дык сабачае?! Што, я павінен тут каля кожнага акна агыркавацца? Але што з гавядаю гаварыць,— дадаў ён цішэй і прыйшоў к школе, дзе павінен быў сабрацца сход.

Там ужо чуліся галасы.

«Што за ліха,— думаў Юлік, падыходзячы бліжэй,— хто там можа быць? Здэцца ж, ніхто яшчэ не ішоў з вёскі — усякі ўсё «чакае», а тут якраз нейкія людзі. Няўжо гэта шляхта-хутаранцы? Напэўна яны — ім яшчэ ўчора заказалі».

Юлік падышоў к лужы, пабоўтаў у ёй нагамі, каб хоць трохі абмыць з іх гразь, і палез на ганак.

І думаў — няўжо гэта хутаранскія «ягомасці» сталі гэткімі шчырымі да сходаў і мітынгаў. Вось дзіва, калі яны.

— Яны і ёсць,— сказаў ён сабе пад нос, адчыніўшы дзверы.— Стараюцца, ліха ім, каб больш сваіх членаў уперці ў сельсавет. А нашы дурні сядзяць сабе па хатах. Усякі, падла, баіцца першым выбрацца з хаты, як бы тут з яго скуру збіраюцца дзерці.

— Ого, начальства прыйшло,— гукнулі ў грамадзе, убачыўшы Юліка.

— Жадаю табе сёння жа зрабіцца гэтакім начальствам,— адказаў Юлік.

— Чаму, нядобра?!

— Ідзі папрабуй гэтакага дабра. Зразу боты ў гразі пакінеш.

— Чаго я маю іх пакідаць?

— Калі не маеш пакідаць, дык самі пакінуцца, як станеш кожны дзень па дваццаць разоў лазіць з хаты ў хату.

Пачуўся рогат. Юлік ўбіўся ў кучу мужчын.

Ішлі гутаркі.

Гаварылі моцна, аж крычалі пасярод памяшкання каля стала.

На голаў вышэй за ўсіх мужчын стаяў там Даніель Кіралейза — самы багаты шляхціц з хутароў.

Доўгі, як качарга, з шырокім аплыўшым тварам і тоўстымі рыжымі вусамі, ён заўсёды стараўся выглядаць чалавекам сталым і важным. Дзеля гэтага ён суконную жакетку сваю зашпільваў усяго на два гузікі — верхні і самы сподні, а пад адтапыраную сярэдзіну грудзіны запі-

хаў рукавіцы або часам нават і шапку; «тоўсты чалавек зусім іначай выглядае»,— гаварыў ён аб гэтым сваёй жонцы.

У хутаранскай капэле ён граў на кларнеце і, лічачы гэта вельмі важным і вялікім дзелам, стараўся заўсёды ўсім гаварыць аб гэтым.

І цяпер, чакаючы адчынення сходу, ён гаварыў аб гэтым жа.

— Не тыя гады цяпер,— паважна выпускаў ён праз свае вусы слова за словам,— няма жаднага разгарнення. Вяселлі цяпер найбольш абыходзяцца без музыкі; вечарынкаў і розных там ігрышчаў зноў не спраўляюць, хіба трапіцца калі, гады ў рады, спектакль граць. Ды і то, якая там ігранка! — ты граеш аднаго марша, а кішкі ў цябе другога. Мо а думаеце, цяпер, граючы, па-людску закусіш?! Бронь божа! Хіба яблык глымзанеш, больш нічога. Вось бывала, калі забяруць дзе вяселле граць, дык, браткі мае, што там робіцца! Колькі я даўней, граючы, гэта, на вяселлі, кілбас пераеў. Страшэнная моц! Каб збіраў у адно месца, дык напэўна назбіраў бы кучу, большую за гэтую будыніну.

— Адно, думаеце, кілбас,— перабіў другі музыкант хутаранскае капэлы — Гаронім Цурубалка, даўжэйшы яшчэ за Даніеля і трошкі згорблены багатыр-шляхціц.— Каб жа адно кілбас. А пірагоў... процьма! Бывала, выйграеш кракавяк ды зразу за стол. Набярэшся — ледзьве вылезеш. Не ведаеш, Даніель, пачом цяпер струны ў Слуцку? — раптоўна абярнуўся ён да Даніеля, каб паказаць, што гаварыць то я гавару, але і дзела не забываю. І, не чакаючы адказу, зразу загаварыў далей к грамадзе мужчын: — Гэта, бачыце, у мяне адна струна, ліха ёй, стала дрынгаць. Абы смыкам да яе дабяруся, дык усё роўна, як цвікам па шклу. Але потым нічога,— дадаў ён, каб яшчэ больш паказаць сваю здольнасць ва ўсякім дзеле,— нічога, умеючы можна зрабіць, што гладка зыдзе, як на тое і трэба. У мяне ніколі ніхто фальшы не знойдзе.— І, падміргнуўшы ўсёй грамадзе, ён важна дадаў: — Трэба ўмець як выкруціцца, на ўсё трэба лоўкасць.

— Як жа ты выкручваешся? — запытаў нехта ззаду.

— Я?! Як толькі дабяруся да гэтае струны, дык у той жа момант таркану нагой бубнага Фабіяна Свінкоўскага. А ён ужо ведае, што гэта значыць, і зразу з усіх сіл як урэжа ў барабан, дык і заглушыць усё. Тады трасцу разбярэ там хто якую фальш.

— Ха-ха-ха... О, гэта дык музыканты,— зарагаталі ў грамадзе.

— Музыканты! — раззлаваўся Гаронім.— Пры чым жа тут музыканты? Тут струна вінавата, а не музыканты. А ён — музыка-а-нты! Вунь папытай у Фабіяна.

— Ат, што гаварыць,— абазваўся бубнач хутаранскай капэлы Фабіян Свінкоўскі, які даўно чакаў ужо якое-небудзь прычыны, каб уставіць сваё слова.— Кажа, музыканты яму нядобрыя, а таго не ведае, што гэтыя музыканты гралі ў касцёле на хорах, як прыязджаў біскуп.

— Уй, гралі яны ў касцёле,— зацягнуў, смеючыся, вясковы Марцін.— Каб гэтак ліхі на свеце жыў і быў, як гэта праўда. Чуеце, браткі, што гэта ён плявузгае?

— Ат, усякі ўсё ў свой бок горне,— абазваўся нехта ззаду.

— Можа і ты з сваім бубнам быў на хорах, га? Фабіян! — запытаўся скрозь смех Марцін і вызваў гэтым доўгі і моцны рогат.

Фабіян, бачачы, што ўгаварыўся, махнуў рукою і недзе згінуў. Засмуціліся нават і Гаронім з Даніелем і гэтаксама адышліся назад. І ўся грамада стала разбівацца на новыя кучкі.

А тым часам сталі падыходзіць вясковыя. Час ад часу павольі адчыняліся скрыпучыя дзверы і прапускалі ўсярэдзіну шэрых ад змроку людзей.

Прыйшоў чырвоны, як бурак, Тодар Грыб, у чырвонай мультановай кашулі, выпушчанай з-пад камізэлькі, і ў суконным халаце наапашцы.

Моцна і густа сапучы з-пад сваіх велізарных вусоў, ён некалькі хвілін пастаяў каля дзвярэй, разглядаючы, к якой тут лепш грамадзе прыстаць з гутаркамі, потым паволі пайшоў у самы цёмны кут, дзе Грыгор Шамяціла, шапляючы на гукі «ж» і «ц», не спяшаючы расказваў «гісторыю пра бога і яго слугу — чалавека».

— Тым часам,— цягне ён сваё нуднае апавяданне,— пазваў бог анёла Архістрата, ды і каза: «Павінен ты, анёле, зляцець на зямлю і зрабіць, каб людзям было добра зыць». «Пане бозе,— каза анёл,— як за я гэта зраблю, калі людзі грэсныя?»

Апавяданне яго вяла, як бы нехаця, спаўзае з яго языка і мала будзіць цікавасці сярод слухачоў. Але яны слухаюць, бо любяць глядзець, як Грыгор ківаецца, пыхкае люлькаю, калупае ў ёй кіпцем і вярзе нейкую пляту,

якую, напэўна, сам выдумаў і якую яны ўжо чулі ад яго тысячу разоў.

Паволі скрыпнуўшы дзвярыма, уваходзіць Хама Скрут, адзеты ў «будзённы спінжак». Чухаючы ў сваёй касматай, трохі пасівеўшай барадзе і моцна грукаючы сваімі велізарнымі ботамі, ён зразу ідзе к сталу, дзе некалькі кучак вядуць розныя гутаркі і спрэчкі. Хама не прапускае ніколі ніводнага сходу, бо любіць «абстайваць праўду». І цяпер, скора падышоўшы к сталу, ён зразу пытае: «У чым дзела, хлопцы?» — і, не чакаючы адказу, зразу заглушае ўсіх сваіх зычным голасам.

Неўзабаве яўляецца Юзік Сучок, вясёлы «чудак» гадоў пад трыццаць. Ён садзіцца на пустым месце, і к яму зразу пачынаюць сцягвацца і малыя і старыя — усе, хто толькі хоча пасмяяцца ўволю.

Некалі Сучок рыхтаваўся выйсці за дзяка, і хоць экзаменту не вытрымаў, але навучыўся многа розных «кандакоў і пракімнаў», якія і любіў, каб пасмяшыць людзей, выспеўваць і расказваць на свой лад.

— А браткі-і ж мае,— крычыць ён весела,— колькі тут гэтых хутаранскіх ягомасцяў назбіралася, а гвалт!.. Вось будзе работы,— дабаўляе ён, не баючыся, што «ягомасці» ўсё чуюць,— як выберам шляхецкі сельсавет.

— Не ўсё роўна?! — абзываецца адзін пакрыўджаны гэтым «ягомасць».

— Х-хэ, усё роўна! — адказвае Сучок.— Ты ж ніколі са мною ў адну дудку граць не будзеш, усё роўна, як той дзяк з папом.

Вочы ў Сучка смяюцца; а яго слухачы падбліжаюцца к яму, знаючы, што скора гэты «чудак» што-небудзь «выпаліць».

— Цягне поп «пракімен»,— канчае Сучок,— «у памяць вечную будзе праведнік, ад слуха зла не ўбаіцца», а п'яны дзяк, не праслухаўшы, паўтарае за ім: «У памяць вечную будзе праведнік, асла і казла не пабаіцца».

Зразу пачынаецца рогат.

З цёмнага кутка чутна гарачая спрэчка. Спрачаюцца Грыгор Шамяціла і Антоні Вельскі. Грыгор, брыты і сагнуты, не пакідаючы пыхкаць люлькаю, шыпучым ад злосці голасам крычыць:

— А я табе, Антоні, казу, што Ісус Хрыстос уваскрос у нядзелю.

— Не ў нядзелю, а ў суботу,— гэтаксама злосна адказ-

вае Антоні — старэнькі чалавечак з сівенькаю кароценькаю бародкаю і рэдкімі, мяккімі валасамі на галаве.

— У нядзелю — я табе казу!..

— Ды я табе ўсю біблію перагарну,— не здаецца Антоні,— там нідзе не сказана, што ён уваскрос у нядзелю.

— Дурань ты з сваёю бібліяю,— гукае Грыгор.

Аблаяны Антоні абварочваецца назад і бачыць перад сабою Сучка, які, разам з цэлаю грамадою зацікаўленых мужчын, падышоў, каб «развесці дурняў».

Растапырыўшы рукі, Антоні колькі хвілін стаіць моўчкі, а потым просіць Сучка:

— Такі-та ж вы, Сучок, вучоны па гэтай часці, растлумачце гэтаму дурню, калі «ён» уваскрос, у суботу ці ў нядзелю!..

— У чацвер,— важна адчаканьвае Сучок і вызывае доўгі, несціхаемы рогат сярод усіх мужчын.

Апусціўшы галавы, Грыгор і Антоні разыходзяцца.

— А мне што,— моцна і адрывіста расказвае нешта, стоячы каля сцяны, Тодар Грыб.

— Маё дзела такое — дзень ды ноч, і суткі ўпроч. Бяры, кажу, крывулю ды бі ў рыла!..

Некалькі зацікаўленых мужчын ціха слухаюць.

Нек зразу, неўзаметку, Тодар пераходзіць на палітыку. Тады каля яго пачынае збірацца вялікі гурт. Тодар гаворыць спакойна — расказвае, але неўзабаве падыходзіць другі, не менш заядлы «палітык», Хама Скрут, і пачынаецца гарачая спрэчка: Хама лічыць сябе лепшым палітыкам і стараецца «падсячы» Тодара.

— Вы думаеце, браткі, гэтак і будзе,— моцна і адрывіста гаворыць Тодар,— вось пагледзіцё, як вясною заварушацца. Будзе вайна. Вось пабачыце. Усё роўна спакою і парадку не будзе.

— Гэта ў цябе ў галаве няма спакою і парадку,— перабівае яго Хама,— чудзіла ты. Падумай сам, якая тут можа быць вайна: Францыя і Англія думаюць сабе — ат, як спакойна, то і добра. Сядзем сабе ціха, бо як заварушымся, дык як паднімуцца!.. Ты думаеш, не паднімуцца?..

— Хто гэта? — пытае Тодар.

— А камуністы тамашнія; ты думаеш, там мала камуністаў?

Тодар гладзіць пальцам па лбу і думае, што б тут сказаць.

— Дык вось,— кажа ён, пачакаўшы,— калі так многа

## 9. Тэлеграма

Віктару Лукашэвічу Прыязджай Маргарыта пры смерці Якуб

## 10. Ад аўтара

На гэтым канчаюцца пісаныя матэрыялы, што да справы Віктара Лукашэвіча, і пачынаецца не пісаны яшчэ раман.

## ПЫТАННЕ СЁННЯШНЯГА ДНЯ

Ужо даўно і многа гаворыцца ў нас аб збліжэнні горада з вёскай. Але рабілася ў гэтым напрамку да гэтых часоў зусім мала. Тое ж, што рабілася, давала зусім мала карысці.

І гэта затым, што вёска не давярае гораду. І не дзіва, што гэта так.

Тое, над чым селянін працуе цэлы год, на гарадскім рынку аддаецца задарма. Земляроб, які мае 3—4 дзесяціны зямлі сярэднім лікам, можа сабраць восенню, пры сярэднім ураджаі, 30—35 коп жыта, што дасць якіх-небудзь 150 пудоў. За гэтыя пуды горад дасць яму не больш, як 3 пары ботаў, а калі ў яго сям'і 4 душы, дык і выходзіць, што за год ён не заробіць нават сабе на боты. Праўда, у яго ёсць яшчэ ярына, але ж трэба яму яшчэ харчавацца самому, харчаваць жывёлу і абсеяць поле.

Вось тут і смычка. І не дзіва, што селянін такі недаверчывы к гораду.

Цяпер нашы гаспадарчыя органы прыступілі к барацьбе з павышэннем цаны на тавары і паставілі перад сабой мэту — падняць цану хлеба.

Даўно б пара. Аб гэтым трэба было думаць і дзень і ноч. Гэта павінна быць нашай самай галоўнай, самай вялікай задачай сённяшняга дня. Гэта балючае пытанне трэба паставіць рабром і думаць над ім, працаваць, пакуль яго не вырашым, пакуль зжывём гэтую ненармальнасць, якая так цяжка адбіваецца на вясковым жыцці.

Ад вырашэння гэтага пытання галоўным чынам і залежыць смычка горада з вёскай.

# АЎТАБІЯГРАФІЯ

Радзіўся я ў сялянскай сям'і, на Случчыне. Дзяцінства правёў у адзіноце панскага фальварку, дзе бацька служыў. Пасля бацькі пераехалі на радзіму — у м. Цімкавічы, дзе пачалі заводзіць гаспадарку.

Вялікі ўплыў на развіццё адчуванняў і дум мела маці, жанчына простая, што навучылася чытаць сама праз сябе, але развітая і многа чытаўшая, пачынаючы бібліяй і канчаючы Львом Талстым і палітычнымі ўсякімі брашурамі,— што можна было ў нязначным ліку і з вялікімі труднасцямі дастаць у глушы. Памерла маці ад сухот, здабытых ад жыцця (страшная беднасць).

Скончыў я настаўніцкую семінарыю, адбываў вайсковую службу, а пасля пунктам імкненняў стаў універсітэт. Тады ў канцы лета 1923 г. прыйшоў я першы раз у Мінск. Ва універсітэт прынялі. Тады пачаў дабівацца стыпендыі. Студэнцкая арганізацыя пасля допытаў і запаўнення анкет прызнала, што ў стыпендыі не маю патрэбы. Пачаў грузіць на станцыях дровы, наймаўся калоць іх. Не еўшы два дні і пакалоўшы цераз сілу дроў, захварэў кішэчнай хваробай. У клініцы зрабілі аперацыю. Тады ўжо меў тры надрукаваных апавяданні ў «Савецкай Беларусі». Пасля аперацыі пачаў шукаць лягчэйшае працы. Знайшоў я яе ў рэдакцыі «Беларускай вёскі». Працы там аказалася столькі, што не было калі ні вучыцца, ні займацца літаратурай. А тут зусім пачало псавацца здароўе, і прыйшлося кінуць універсітэт. У 1924 г. стаў «маладнякоўцам».

Як пачынаў я пісаць, шчыра мяне спаткаў у рэдакцыі, з нейкай радаснай прыхільнасцю Змітрок Бядуля.

Усё, што напісаў дагэтуль — не тое, што б мяне задаволіла. Усё напісана прыхваткамі, пасля рэдакцыйнай працы... Больш усяго ў мяне напісана — дык гэта нататкаў у часе наглядання над людзьмі і жыццём — ды няма калі пісаць. Па гэтай прычыне амаль нічога і не чытаю.

Цяпер жадаю аднаго: каб такія рэчы, які літаратура, не тварыліся прыхваткамі і саматужна...

# І ВАДА ЗАЛІТА КРЫВЁЮ

## І

У вечнай стомленасці, з потам і слязьмі, сярод шэранькага дзерава душных хат, у недастатках і непакою спрадвеку цягнулася гэтае жыццё. Ад гэтага жыцця жанчына пад трыццаць год здавалася старою — звяўшы твар яе з самых маладых год набываў усе адзнакі цяжкае заклапочанасці, і вочы глядзелі тупа.

Маці трымала на руках дзіцянё, і яе постаць тады магла быць вялікім увасабленнем адвечнага гора і слёз.

Гэтая адвечная няпраўда, гэтая весялосць адных, вырасшая на пакутах другіх, выявілася як забітасць і загнанасць адвечных бедакоў-вяскоўцаў, як забітасць і ціхасць голых і босых жыхароў мястэчак і гарадоў.

І тут, у нас, на нашай вялікай гэтым горам зямлі, яшчэ і другая «форма» прыгнечання выявілася найбольш як дзе — ляжыць яна, Беларусь, там, дзе ганаровыя дыпламаты і палітыкі, вялікія гандляры, «апекуны культур», заваяваццелі пракладвалі шляхі для сваіх паходаў, знаходзілі месца для сваіх крывавых спатканняў.

Беларусь, разам з Украінай, дала новы від пакутніка — назва якому бежанец, уцякач.

Усё гэта ўва ўсёй вастраце сваёй устае ў памяці цяпер, калі беларускія вёскі на захадзе задыхаюцца пад новай панскай навалай пілсудчыны.

У той нядаўны час, калі слёзы змяніліся на кроў і смерць, адчутае і перажытае пакутнікамі ці змагло расказаць аб сабе будучым пакаленням глыбінёю слядоў сваіх?!

З шматлікіх падзей, вось тут некалькі іх.

Малоў ён муку ў сваіх сенцах у жорнах саматугам — гаспадар у Селішчах, што 8 вёрст каля Слуцка. І тады ціха і спакойна ўвайшло двое польскіх салдат, так жа ціха адцягнулі яго ад жорнаў, вывелі на двор і далі прыкладам у твар.

Проста так, на пацеху.

Далі другі раз, пасля яшчэ спакайней трэці раз, і тады надышла смерць.

У век тэхнікі, у век аўтамабіляў, браневікоў, прыаружаных паветраных караблёў, танкаў і мінаносных караблёў — хто застаўся дамалоць муку на першабытнай прыстройцы, саматужных жорнах у цёмных сенцах?!

Тады Селішча баранілася — моладзь пайшла ў партызаны.

У адзін дзень зноў польскія салдаты разышліся па селіцкіх хутарах. І вось злавілі зноў селіцкага чалавека. Таму было за сорак год, гэтаму за дваццаць.

У лесе было зацішней, мусіць, мучыць; дапыталі і тады павялі яго. Мучылі тут у лесе таксама паволі. Паволі адрэзалі вуха, пасля пачалі выбіваць зубы.

Выбівалі ўсе да апошняга. Так, нацешыўшыся, пакінулі там уміраць.

Ніхто не ведае, колькі там канчаўся ён, гэты селянін з Селішчаў. Можа ён там канчаўся ўвесь той астатак дню і ноч, можа зваў каго.

Лес маўчыць.

Акрываўлены мох, лясная трава — нямыя сведкі, ды засталіся яшчэ слёзы і боль родных.

Там жа непадалёку Еўлічы пылалі ў агні.

Куды было дзецца?

II

У гарачыя дні на сухую зямлю асыпалася параспелае жыта. Яно мясцамі і зжата было, і глумілася ў перасохшых снапах, мясцамі стаяла нязжатым — ламалася саломаю і ападала. Палявыя дарогі маўчалі цяжкім пылам — пустыя былі яны ў тыя дні.

Як бы гэта было ўвасабленне вялікага жаху, смерці, якая ўзнялася ўва ўсім сваім вонкавым маўчанні.

Гарачыя дні маўчаннем сваім павялічвалі гэты жах.

У такі дзень, 20 ліпеня, гарэла вёска Кулакі, што ў Капыльскім раёне на Случчыне.

У поўдзень прыйшлі сюды 5 чалавек польскіх салдат. Можа кожны з іх паасобку, і напэўна, што гэта так, думаў тады аб сваім закінутым недзе там у Познані ці за Кашам полі з маргамі бульбы і загонамі пшаніцы; у глыбіні істоты кожнага з іх паасобку, мусіць, варушыліся адценні жалю і смутку па блізкіх людзях — там можа дзе і брат меншы быў хворы, і бацька стары немагутны...

Але аб гэтым не можна гаварыць адзін аднаму, гэта трэба задушваць, і вось яно пералілося ўжо ў іншыя формы і паднялося як нянавісць да таго, хто жыве тут на гэтай чужой зямлі. І вось яны — ужо ўвасабленне панскай дзяржавы, самі выйшаўшыя з «хлапцоў» — абаронцы прыгнечання гэтых хлапцоў, жалезная сіла яснавяльможных.

што маюць сабе падуладных — і там, у маёнтках, забітых і бяспраўных парабкаў, і тут, на вайне — паслушных і азвярэлых салдат.

Панская Польшча! Выведаўшая за часы царскага расійскага панавання ўсю цяжкасць прыгнечання і цяпер стаўшая найяскравейшым узорам краіны з самым цяжкім прыгнечаннем слабага моцным, мужыка панам і народа народам.

І за замацаванне гэтага прыгнечання выступіўшая тады ваяваць.

І вось у вёсцы Кулаках пяць салдат прайшлі па вуліцы, прайшлі, як гаспадары над забранымі. А гэтыя забраныя — ціха і баязліва сядзелі ў сваіх хатах.

Што будуць рабіць гэтыя салдаты?

Салдаты пачалі грабіць і выказваць рызыку маладых і храбрых ваякаў. Тады на абарону вёскі падышлі партызаны — з-пад мястэчка Цімкавіч, вёрст за тры.

Пяць польскіх салдат весела вярнуліся ў Кіевічы, да сваіх галоўных сіл і вось неўзабаве адтуль пад вёску Лешню вывезлі батарэю і пачалі біць па вёсцы Кулаках, па запалоханай і забітай вёсцы, дзе не было ніводнага вайсковага, ніводнага салдата і нават амаль не было моладзі. Заставаліся тут тады жанчыны, дзеці, стомленыя работай і трывожным непакоем гаспадары.

Так адбыўся абстрэл гэтае вёскі, абстрэл з батарэі, 20 ліпеня 1920 г. Як абстрэл спынілі, прыслалі тады сюды 50 салдат. І вось гэтыя 50 чалавек — азвярэлая сіла Польшчы — у 20 месцах пачалі падпальваць вёску. Падпальвалі праз кожную хату.

Хаты нізенькія і салома стрэх сухая — падыдзе салдат да хаты, запаліць запалку і ўткне ў салому страхі. І тады спакойная вясёласць з'яўляецца ў яго.

І патроху, неўзаметку, гэта перайшло ў пацеху і гэтага стала здавацца мала. Трашчаць толькі салома і дрэва ў агні, трэба яшчэ, каб хто, канчаючыся ў ім, крычаў, зваў на дапамогу, маліўся аб паратунку, моцна кідаючыся і чуць варушачыся ў пакутах.

І вось злавілі селяніна Макарэвіча Мікалая, абабралі яшчэ непадпаленую хату, увялі яго туды, замкнулі і хату падпалілі.

## III

Што адчуваў селянін Макарэвіч Мікалай, седзячы зачыненым у падпаленай хаце, абкружанай польскімі салдатамі? Ці мог цяпер яшчэ думаць ён аб зглумленым жыце на полі?

У агні і дыме высыхаць стала сарочка, чорным потам прыліпшая кагадзе да цела, і змучанае трывогамі апошніх дзён цела набыло раптам нервовую сілу, якая здольна ў востры момант ірвануць чалавека на нечалавечую патугу, а пасля кінуць яго ў знялюддзе на зямлю. І рвануўся там у агні селянін Макарэвіч Мікалай.

Салдатам надакучыла, мусіць, трохі аднастайнасць забаўкі, і яму ўдалося выскачыць з агню і пабегчы ў нямым жаху. Так удалося яму збавіцца.

Хто думаў з храбрых абаронцаў яснавяльможнае Польшчы аб тым — нашто гэтая маленькая забаўка ў ціхай, багатай лапцямі, саматужнымі жорнамі і ліпкім потам стамлёных ног беларускай вёсцы, забаўка — якая праз паўдня тут жа і забудзецца зусім і назаўсёды, як толькі знікнуць з вачэй попел і абсмаленыя косці!

Перад тым як падпальваць, пакінулі страляць, так і стала зусім ціха.

Крык тануў тут жа на вуліцы, а як гарэла салома і дзерава — толькі ціхі трэск быў і больш нічога.

Таксама ціхенька згарэў і ён — малы, пяцігадовы. Гуляў ён ціха ў хаце, пасля падпалілі хату, і ён там кончыўся. І ўсё. А перад гэтым ён у зрэб'і бегаў па вуліцы, плакаў, калі яго пакідалі аднаго, ідучы на работу, можа часамі недаядаў, а пасля, вырасшы, мог недасыпаць ад мноства работы... А цяпер згарэў, задушыўся ў дыме.

Ён там у агні і дыме, мусіць, заплакаў моцна, заенчыў, пазваў матку, пасля скурчыўся, пасля выпрастаўся на апаўшых гарачых вуголлях, але хто яго чуў адтуль?! А калі хто й чуў — хто што мог зрабіць.

На вуліцы стаялі салдаты Польшчы, далей за дымам і апаленымі платамі, дзе пачыналася поле — людзі. А тут хто быў — для яго была вялікая адзінота. А для анямелага дзіцяці — твары салдат, якімі яго палохалі, калі ён бачыў іх,— ці не здаліся яны яму вялікай пустыняй! А ў пустыні заўсёды маўчыць пясок і жаўцее спакойна неба.

Ціха і спакойна! І хто там пачуе плач дзіцяці!

## IV

Цяпер ён стаіць, сівы, стары, са змучаным жыццём тварам. І толькі ў вачах яго гарацъ агні, калі ён расказвае аб тым, як прабавалі выхватваць яны з агню набыткі свае. Як лавілі іх, адбіралі з рук і кідалі назад у агонь. Як схваціў ён два кажухі, а яго злавілі з вясёлым смехам:

— Кідай у агонь!

Ён маўчаў.

— Кідай у агонь!

І схвацілі за рукі, заламалі іх назад. Тады ён у слязах і болю прыгнуўся, як бы хацеў кінуцца на зямлю, і прыпаў губамі да рукі польскага салдата.

Жыць жадаў бядак!

У час вялікай барацьбы за знішчэнне прыніжанасці чалавека перад чалавекам Польшча прыслала на Беларусь абаронцаў гэтае прыніжанасці, на Беларусь, якая нядаўна тады ледзьве пазбавілася была ад «далікатнага» панства з абцалованымі белымі рукамі. І вось гэты ваяка за Польшчу з белымі рукамі, абцалованымі паднявольнымі слугамі — гэты ваяка раптам выпусціў рукі злоўленага вяскоўца і пусціў яго. Можа пасля ён і хацеў вярнуць яго, каб і кажухі яго і яго самога кінуць у агонь, а тады — пусціў: захапленне ахваціла яго, калі чалавек прымушаны быў прынізіцца перад ім.

І вось злавілі яны хлапчука — было яму тады гадоў трынаццаць. Злавілі, патрымалі, а пасля пхнулі і пагналі па вуліцы. І як пабег ён, зноў злавіць яго пажадалася ім і пачалі даганяць. Бегучы ён скінуў сарочку, каб не пазналі яго, а яго пазналі і дагналі. І вось узялі яго за плечы, падвялі да сцяны, што не паспелі яшчэ запаліць, і пачалі біць ім аб сцяну.

Чаго яны ад яго хацелі? Чаго ім ад яго трэба было?

І вось вясковец. Угледзеў ён, як падышлі падпальваць яго хату. Тады з свайго двара кінуўся ён уцякаць. Пабег у бок палеткаў і адчуў, што па ім страляюць. Тады ён упаў і папоўз. Так пад абстрэлам поўз ён да спелых ячменяў і там у трывозе і непакою лёг на зямлю. Так і ляжаў і за шчасцем жыў застаўся.

У другім жа канцы ахвачанай агнём вуліцы лавілі і білі сялянак.

## V

Білі жанчын.

Маці, сястра — стаялі ў агні перад сцяною яснавяльможнае панскае сілы, стаяла вечная пакутніца зямлі — прыбітая, зняважаная. Маці — сканаўшых у агні дзяцей, прыбітых галавою аб сцяну, маці дзяцей, уцёкшых у вялікай трывозе ў поле, страшнае цяпер і адзінокае. Сястра забітых жалезам у твар, заведзеных у лес на пакуты, жонка ўкінутых жывымі ў агонь.

Вялікая жанчына Беларусі — сялянка!

У яе не высыхаюць слёзы на змораным твары, слёзы па загінуўшых у пакутах.

Гэта маці тых герояў-сялян, якія трымалі некалькі месяцаў фронт на Бабруйшчыне, замяніўшы, калі трэба было, рэгулярную Чырвоную Армію.

Білі ў вёсцы Кулаках жанчын, а сама вёска дагарвала. Ціха, як свечка, ужо нават і нямоцны трэск дзерава ў агні сціх.

Пацеха была скончана, а пацешыцца хацелася больш, і вось пробавалі зганяць сялян, і чуваць была гаворка афіцэраў, што «патрэбна сабраць усіх і залпамі пастраляць».

Канчацца пачынаў дзень. Хто вырваўся з салдацкіх рук, хто раней пакінуў роднае папялішча — нічога тут не было ўжо вартаваць. Ясё было скончана, быў попел, вуголле, абсмаленае дзерава і абгарэлыя косці.

Тады палякі ўспомнілі аб пажыве. Знайшлі выратаваную жывёлу і пагналі з сабою цэлае стада. Яшчэ знайшлі коней і пагналі з сабою 25 самых лепшых. І вось тут знаўцы кавалерыйскага хараства і хараства вышкаленых коней выявілі сваю прыхільнасць да выбару коней і прынялі гарачы ўдзел у гэтым — польскія афіцэры. Раней, як салдаты палілі вёску, кідалі ў агонь людзей і грабілі — тады яны былі вясёлымі наглядальнікамі, былі ў захапленні ад рэдкага гульбішча і давалі толькі загады. Тут у іх не хапіла цярплівасці не дзейнічаць самім. Тут была пажыва...

Канец дню прынёс канец усяму на гэтым маленькім куточку Беларусі. Нацешыўшыся і пажывіўшыся, зніклі яны, тут жа, мусіць, забыўшы ўсю гэтую справу. І на месцы вёскі Кулакоў застаўся чорны твар руін і нямая пустыня душ, і страшная пустыня ў паўнаце, бо нічога не было выплакана і нічога не было выказана.

І цяпер сівы і слабы стаіць ён, выпакутаваўшы ўсё гэта, аддаўшы чорным здарэнням сваю жыццярадасць, ён

захаваў у сабе вялікую чуласць. І вось па яго абветраным у полі твары, па маршчаках, на сівую бараду цякуць сарамлівыя ціхенькія слёзы.

І ён ледзьве выгаварыў адну фразу, якая сказала ўсё. Ён сказаў:

— Колькі здароўя адабралі!

І больш нічога не гаварыў. І ўсе, хто быў тут, думаючы аб усім гэтым, былым, памаўчалі ў тую хвіліну...

Сем год прайшло. Хаты забудаваліся новыя. Забудуецца ўсё. Улетку поле зноў шуміць жытам і ўвосень цешыцца зялёнаю руннюю. Зямля на сабе згладзіла сляды.

Але ці згладзяцца сляды ў людскіх істотах?

Ніколі не гляне весела сагнутая горам постаць, і ніколі не вернецца «адабранае здароўе».

Маленькі куточак зямлі ўпісаў у гісторыю Беларусі — у гэтую гісторыю толькі адных пакут краіны, пакут стагоддзяў — гісторыю новай пакуты. (...)

## VI

У Случчыне яшчэ вёска Быстрыца ўведала польскага салдата і афіцэра.

Быстрычанін павёў у кузню раскоўваць каня, і там жа гэтага каня польскі салдат адабраў. У той жа дзень у другога быстрычаніна забралі каня з дому. І рабавалі ўсё: і палотна і адзежу — такія «дробязі», як сялянская зрэбная адзежа, лічыць і не патрэбна была ім, але тут быў нейкі «ваяцкі прынцып».

У суседніх вёсках Дзярэчыне забралі табун коней, у Мацкевічах — таксама табун коней. Убачылі на быстрыцкіх палях стада кароў — і сяржант польскае арміі Шуба заявіў аб патрэбе забраць і іх. Забралі.

Гэта было ўлетку, калі адступалі.

А зімою, у час «мірнае стаянкі», днём па вуліцы білі быстрычаніна Васіля Бабейку — старога, год семдзесят.

Білі кулакамі ў твар, дзеравам вінтоўкі ў грудзі.

Летам, як забіралі ўсе набыткі, некалькі чалавек сялян пробавалі бараніцца — і вось цяпер шукалі «кіраўніка гэтае абароны».

І рабілі допыты над сялянамі — кулакамі, жалезам і дзеравам.

Перад самым адыходам са Случчыны, па Рыжскай згодзе, яшчэ паспелі наладзіць суд над 6-цю быстрычанінамі. Судзілі за тое, што ў іх вёсцы было некалькі прыаружаных

сялян, якія некалі прабавалі бараніцца, калі ў цэлай вёскі забіралі коні, іншую жывёлу, дробныя рэчы. Засудзілі на розныя тэрміны турмы — некаторых на восем год. Зразу ж пасля суда прыйшлося ім пакідаць Случчыну — увайшла ўжо ў сілу Рыжская ўмова. І засуджаных сялян павезлі з сабою ў Польшчу. Павезлі з беларускай зямлі беларусаў у польскія турмы. Прыйшлі, аграбілі, паздзекаваліся. Калі прыйшлося пакінуць акупаваную зямлю, судзілі і павезлі з сабою, у свае турмы.

За што? І дзеля чаго? (...)

Усё перанёс беларускі селянін. Усякія пакуты ўведаў і ў вострыя моманты на ўсё здольны. І вось, дзякуючы вялікай напружанасці настрояў, вялікай рашучасці, засуджаным удалося ўцячы з падарожжа ў Польшчу.

## VII

Бачыў я адно здарэнне — польскі афіцэр патрабаваў у сялян нейкіх коней, нейкіх фурманак, яшчэ нечага мала патрэбнага яму. Нехта спрачаўся, нехта нешта сказаў... Тады ён закалаціўся ад злосці, ударыў каня свайго шпорамі і пад'ехаў да бліжэйшае хаты, гатовы падпаліць салому яе страхі.

Было гэта ў мястэчку Цімкавічы, на Случчыне, у пачатку лета.

Нехта заплакаў, нехта закрычаў.

І от падышоў хворы, стары яўрэй Г. С. Ён яшчэ некалькі момантаў пастаяў, як бы не могучы адразу зразумець становішча рэчаў. Пасля баязліва папрасіў:

— Панок, не губіце людзей.

Панок строіўся падпаліць страху.

Тады зноў сказаў ён:

— Панок, не губіце людзей.

Моцна ён не мог гаварыць, вочы, поўныя слёз ад старасці, падняў высока — на ўзровень твару паніча. Панок тады моцна закрычаў на яго.

Тады ён прыгнуўся ўсяею постаццю, раптам прыблізіў твар да стрэмя і пацалаваў у бот панку. І тады панок ад'ехаў — злосны і горды.

Ці не ўвасабленне гэта ўсяго таго, на чым і з чаго пабудавана панская цывілізацыя!

У гэтай пакорлівасці старога і хворага я не ўбачыў рабства. З гэтае «пакорлівае» ціхасці выліліся пасля хвалі

паўстанняў на ўсёй Беларусі, гарэў агонь вялікага змагання за права чалавечнасці...

І цяпер, калі Беларусь яшчэ ўсё пакутуе, аблітая крывёю і слязьмі на ўсім Захадзе сваім, ад панавання над ёю польскай панскай цывілізацыі — цяпер: хіба можна спакойна быць і не быць у агні і бурах?!

Расстраляныя на родных палях, зажыва спаленыя ў сваіх уласных хатах, не могшыя нават падаць голасу аб дапамозе, катаваныя ўсімі спосабамі, якія толькі да гэтых дзён прыдумала навука і тэхніка буржуазных цывілізаваных краін — вось сляды ў нашай краіне Беларусі.

Глыбокая культура беларускіх рабочых і сялян, прыдушаная вякамі, і цяпер, ва ўсходняй савецкай частцы Беларусі, вызваленае з-пад ярма, атрымаўшая ўсе магчымасці развівацца, высока развіўшыся і даўшы вялікія каштоўнасці ў скарбніцу будучай інтэрнацыянальнай культуры — з'явіцца вялікім культурным помнікам над усімі пакутамі Беларусі.

Наша задача больш даскапала вывучыць ахвяры, якія былі вырваны з Беларусі паходам Польшчы. Вывучыць і больш падрабязна заявіць аб іх, каб панская Польшча, якая душыць цяпер Заходнюю Беларусь, не гаварыла аб Беларусі як аб нейкім козыры, якім можна «казыраць», а каб яна прымушана была сказаць, што гэты «козыр» ёсць жывая істота, ахвачаная вострымі пакутамі, у крыві і слёзах.

«Усю крыўду за сваю айчыну мы вылічым у судны дзень».

# З РОДНАЙ ГЛУШЫ

Вечар кладзецца на снежную вуліцу, з ціхіх палёў плыве сіні змрок. Вёска Кулакі скрыпіць варотамі, каля калодзезяў плюхае вада. Галасы дзяцей заціхаюць на вуліцы.

Прыйшоў вечар.

Вечарам у старшыні сельсавета Мікалая Ч. збіраюцца мужчыны пагаварыць. Гаворка ідзе аб самым патрэбным цяпер — аб дровах, аб лесе.

Заўсёды на свеце так — найбольш гавораць аб тым, што каму баліць.

— Для вёсак, якія далёка ад лясоў,— чуецца голас,— трэба больш даваць палёгкі, бо з дровамі трудна.

— З-за нядбайства лясніцтва нам позна адпусцілі лес, і за кароткі тэрмін не можам прыбраць яго. Наогул, лес позна адпускаюць, трэба з самае восені.

— Мераюць дрэнна дровы, не ў сажонках, а на пні, загэтым не хапае меры.

— Лясніцтва размяркоўвае лес не добра — далёкія вёскі едуць у нашы лясы, а мы ў іхнія — марна часу і працы шмат траціцца.

Лясніцтва Чырвона-Слабодскае знаходзіцца ў Орліку. Гаворка ідзе аб усякіх непрыемнасцях, якія лёгка зжыць, але пакуль яны ёсць, ад іх вельмі прыкра бывае. Расказваюць, як летась ляснічы прадаў быў на пні адны дровы двум пакупнікам.

Са смехам расказваюць пра дзелавода ў лясніцтве, які па ведамасці больш вылічыў грошай за лес, як належала.— Дык я яму праз некалькі дзён паказаў яго гэтую памылку. Ён паглядзеў ды і кажа: «Што праўда, то праўда, памыліўся, ліха на яго». Зараз чаркануў па ведамасці: «Я,— кажа,— паправіў». Аддай жа грошы,— кажу я. «Я з вас,— кажа,— правільна ўзяў».

Скардзяцца на пакражу дроў.

Адзін селянін падаў думку:

— Хіба ўвесці трэба лясную павіннасць: каб кожная вёска кожны год засявала пэўны кавалак лесу.

— Пападзецца дзе-небудзь ва ўстанове які-небудзь шмэндрык, які ўсю працу псуе, ды разводзіць валакіту...

Я іду ў другую хату. Хлопцы расказваюць:

— Слаба вядзецца барацьба з хуліганствам. Некаторыя

хлопцы нап'юцца, возьмуць гармонію, рэжуць частушкі і хуліганяць.

— Пошта неакуратна дастаўляе газеты.

У адной хаце хлопцы паказвалі мне кнігі — брашуры па кааперацыі, па рэвалюцыйным руху... Кніг мала — непачаты кут работы нашым культурна-асветным установам.

Позна вечарам я гаварыў з старшынёю і сакратаром сельсавета — слаўныя працаўнікі, культурныя людзі, прадстаўнікі лепшае часткі вясковай моладзі.

Пленумам сельсавета ўведзена ў план працы на гэты год: арганізацыя тарфянога таварыства — маецца ў сельсавеце шмат торфу, які неабходна распрацаваць, пабудова лазні, арганізаваць пракатны пункт.

Вялася праца па землеўпарадкаванню. Пасёлак Малінаўка перайшоў поўнасцю на шматполле, і цяпер гаспадары здаволены добрымі вынікамі.

Яшчэ ў плане працы сельсавета — пабудаваць у гэтым годзе школу ў вёсцы Кулаках. Тады школа павінна будзе быць уведзена ў сетку.

Ёсць імкненне адчыніць сельскагаспадарчую кааперацыю.

Вельмі патрэбна адчыніць у цэнтры сельсавета лячэбны пункт.

У вёсках гэтага сельсавета расказвалі сяляне аб забойстве ў вёсцы Дзярэчына сакратара камсамольскай ячэйкі, хвалілі яго як добрага працаўніка. Скрозь я чуў добрыя водзывы аб ім. Працаваў ён у кааперацыі старшынёю.

Следства нічога не выявіла. Перад тым, як знайшлі яго нежывым, быў сход ячэйкі. Яшчэ ёсць пагалоска, што ён сам застрэліўся. Ці так гэта?

Следства павінна раскапаць гэтую справу.

Назаўтра я ехаў у санях па вузкай дарозе. Стаялі ціха вёскі ў снегавых палях...

Мясцовасць гэтая пацярпела ад палякаў. Сляды польскага панавання згладжваюцца. Культура гаспадаркі пранікае ў гэтую глуш. Задача — развіццё сельскагаспадарчае прамысловасці — паўстае зараз тут ва ўвесь рост. Да культуры ідзе родная глуш. І прыйдзе.

І на занядбаных адвеку гонях «закрасуе вечнае ранне».

## АЎТАБІЯГРАФІЯ

Таварыш Клейнбарт! Маю гонар даць Вам кароткія аўтабіяграфічныя весткі аб сабе. Радзіўся на Случчыне, у мястэчку Цімкавічы, у беднай сялянскай сям'і. Беднасць бацькоў даходзіла часам чуць не да жабрацтва — гаспадаркі свае да рэвалюцыі не было. Скончыў я настаўніцкую семінарыю ў Нясвіжы, працаваў у валасных іспалкомах, пасля быў у Чырвонай Арміі, дэмабілізаваўшыся, быў год настаўнікам, пасля пехатой пайшоў у Мінск вучыцца. Вучыўся ва універсітэце, вучыўся мала, найбольш шукаў работы. Грузіў на станцыях дровы, наймаўся калоць іх на складах, у прыватных гаспадароў, жыў, сумаваў, хварэў, радаваўся, галадаў. Пасля заняўся журнальнай работай, займаюся ёю і па сённяшні дзень, працуючы ў рэдакцыі газеты. Апроч рамана і аповесці, займаюся цяпер драматургіяй, дзе імкнуся даць жывых людзей, як самае важнае, што жыве і дзейнічае сярод падзей на свеце, у іх, з імі і на фоне іх. Праблема жывога чалавека займае мяне ўвесь час. Гэтае фактычна наватарства ў беларускай літаратуры прымушае шукаць новых формаў, працаваць над імі. У гэтых маіх імкненнях, якіх у Мінску некаторыя асобы не хочуць зразумець, падтрымалі мяне ідэі нашай сучаснай культурнай рэвалюцыі. Літаратурнае аб'яднанне «Узвышша», да якога я належу, якраз і змагаецца за літаратурны сталічны Мінск, супраць Мінску — як губернскай правінцыі, з кансерватарскімі поглядамі на літаратуру і традыцыямі губернскага маштабу.

Пішу многа, многа працую і думаю над формай. От кароткія весткі аб сабе. Галоўнае, што мучыць мяне з самых маладых год маіх, гэта пакуты чалавека на зямлі, якія ў нас яшчэ не знішчаны і за знішчэнне якіх мы ўсе цяпер змагаемся. Гэта таму, што я выйшаў з самага «дна» нашага беларускага жыцця і з гэтым «дном» і цяпер звязаны духоўна і фізічна. Прынамсі — блізкія мне людзі і цяпер жывуць у гэтым дне. От пакуль і ўсё.

З глыбокай пашанай да Вас

*Кузьма Чорны.*

P. S. Кузьма Чорны — мой псеўданім. Сапраўднае прозвішча — Мікалай Раманоўскі. Я вельмі прасіў бы Вас напісаць мне, з якімі маімі кнігамі Вы знаёмы. Гэтымі днямі я здаю ў друк новы свой раман «Зямля». Яшчэ я цікаўлюся вельмі Усеваладам Іванавым, чытаў Вашу працу аб ім. Ці знаёмы Вы з ім асабова?

# НЕБЕЛАРУСКАЯ МОВА Ў БЕЛАРУСКАЙ ЛІТАРАТУРЫ

Вялікая беларуская моўная стыхія не толькі не загінула за час шматвяковага нацыянальнага падняволення Беларусі, не толькі не была праглынута моцнымі культурамі суседніх народаў, а захавала сваю чыстату, скрышталявалася ў надзвычайнае багацце арыгінальных формаў, служачы нават багатым матэрыялам для суседніх моўных культур. Беларуская мова — мова беларускіх казак і песень, фразеалогія народнае гутаркі,— гэта найглыбейшая самабытнасць і хараство.

Сіла самабытнасці слова разбурае ўсе спробы іншых моўных культур залічыць якую-небудзь мову ў свае «наречия». Гэта даведзена якраз прыкладам з беларускаю моваю. А чым больш нацыянальных асаблівасцей мае гэтая культура, тым больш гэта ўзбагачае тыя нацыянальныя элементы, з якіх ствараецца агульная чалавечая культура.

Усё гэта даўно вядома. Але ўсё гэта даводзіцца прыгадваць з тае прычыны, што мы перажываем асаблівую пару ў развіцці нашае культуры. З аднаго боку — яшчэ і цяпер не зусім змоўклі галасы некаторых акадэмікаў і дацэнтаў пра «наречие». З другога боку — павінны быць створаны *беларускія* вышэйшыя формы беларускай культуры. І тут паўстае найвялікшае пытанне мовы. Бо каб гэтыя «вышэйшыя формы культуры» былі і вышэйшымі і беларускімі, няйначай трэба, каб яны былі сапраўды ў беларускай мове.

Беларуская жывая літаратурная мова перажывае цяпер пару свайго фармавання. Дык трэба, каб усе ўсвядомілі, якую вялікую гістарычную адказнасць жыццё ўсклала на літаратараў, гэтых адзіных тварцоў жывога кніжнага слова. А тым часам частка літаратараў, трэба думаць, не зразумела сваіх задач у моўным пытанні, мусіць, не адчувае на сабе гэтае адказнасці. Бо траха не ўсе нашы часопісы і газеты, а таксама творы некаторых пісьменнікаў выходзяць у свет у гэтакай мове, якую можна назваць сапраўды толькі «наречием». Фразеалогія гэтае мовы зусім не беларуская. Гэта фразеалогія той мовы, стыхія якое пануе ў аўтара, на якой у аўтара працэс думання. Гэтая з'ява, якая не толькі не слабее, а набывае памеры нястрыманай навалы, цяжкім каменем загароджвае дарогі развіцця беларускае культуры.

У «Узвышшы» № 2 за 1927 г. Уладзімір Дубоўка ў сваім артыкуле «Пра нашу літаратурную мову» ўспамінаў адзін верш, які напісаны нібы ў беларускай мове, але ў якім усяго некалькі беларускіх слоў. Верш з гэтакімі тэрмінамі, як «лунныя лапы»... Гэтыя «лунныя лапы» ўсё больш і больш пускаюць карані, усё больш і больш імкнуцца запанаваць цалкам у нашай літаратурнай мове. Гэтая навала робіць справу змагання з беларускаю культураю і яе льга выкараніць толькі тады, калі нашы літаратары стануць тут свядомымі і дзейнымі, калі яны адчуюць усю сваю адказнасць. Бо іначай, побач з крышталяваннем нашае літаратурнае мовы, гэтая навала будзе ўсё ўмацоўвацца і загароджваць дарогі літаратурнай культуры. Гэтае злачынства цалкам ляжа на сумленне тых літаратараў, якія сталі на працу як бы дзеля таго, каб патаптаць і знішчыць тое моўнае багацце, якое Беларусь збірала і ахоўвала ўсе доўгія вякі свае падвойнае няволі.

Возьмем з першае, якая апынулася пад рукамі, расійскае кнігі кавалак тэксту. «По утрам солнце светило мне сквозь двойные решетки. И от него, и от счастливо воркующих за окном голубей хотелось смеяться. Я тихо ходил от стены до стены и сквозь решетки видел весело синеющее небо».

Беларускаю моваю гэта можна гэтак выказаць: «Раніцамі сонца свяціла мне праз падвойныя краты. І ад яго, і ад галубоў, якія шчасліва буркавалі за вакном, хацелася смяяцца. Я ціха хадзіў ад сцяны да сцяны і праз краты бачыў неба, што весела сінела».

Гэта калі цвёрда прытрымлівацца моўнага кірунку ў расійскім тэксце. Ніхто не забараняе выказаць і гэтак:

«Па раніцах сонца свяціла мне праз двайныя рашоткі. І ад яго, і ад шчасліва варкуючых за вакном галубоў хацелася смяяцца. Я ціха хадзіў ад сцяны да сцяны і скрозь рашоткі бачыў весела сінеючае неба». Тут справа вельмі простая. Для таго чалавека, у якога моўнае думанне не беларускае, а расійскае, гэтакім жаргонам куды лягчэй пісаць, чымся беларускаю моваю. Дык гэтак і пішуць. І лічаць, што гэта беларуская мова, і ніколі ім не ўзбрыдзе нават на думку, што творы, якія напісаны гэтакаю моваю, ёсць творы па форме расійскія, а не беларускія; але расійскія непісьменныя, бо на расійскай мове, напрыклад, не «сінеючых», не «рашоткі», не «варкуючых», а «синеющих», «решетки», «воркующих». У беларускай жа мове гэтакіх формаў зусім няма. Дык расійцы маюць права лі-

чыць гэта сваім «наречием». Але ўсё ж «наречия» гэтакага расійская мова не мае; абсалютна не мае гэтакіх формаў і беларуская мова. Формы гэтыя ёсць раўналежныя расійскім; такім чынам, гэта ёсць расійская мова зусім неписьменных аўтараў. Іначай гэтую з'яву ні растлумачыць, ні апраўдаць нельга.

Але можа хто скажа, што нічога гэтакага ў нас няма? Дык вось бяру «Полымя». Бяру № 5, за 1928 год — той паасобнік, які першы трапіў у рукі. Пачынаецца гэтая кніга перакладам з нямецкае мовы. Пераклад гэты ўспомнім пасля, а раней глянем на арыгінальную беларускую творчасць. Адразу ж першае слова — загаловак: «Над абрывам». Аўтар думаў «над обрывом» і напісаў «над абрывам». Не ведаючы, што ў беларускай мове «абрыў» гэта значыць «парасюк лычам дрэва абрыў». Якраз, як той аўтар «лунных лап» думаў: «И такие смешные следы лунных лап по утесам легли» і пісаў: «І такія смешныя сляды лунных лап па ўцёсах ляглі». А пасля пачынаецца тэкст твора «Над абрывам» і адразу ж з першага сказа: «Вясна ў тым годзе наступіла неяк рана». А за гэтым і скрозь пачынаецца: «звярнуўся да свайго суседа па фурманцы». «Ты занадта вялікае значэнне прыдаеш барацьбе з адзінкамі» (33 бал.). «Мы пераможам, калі асабістае, прыватнае прынясём у ахвяру агульнаму, грамадскаму» (34 бал.). «Зграбная, хілкая постаць, абрысы якой адзначаліся з-пад лёгкай, адпаведнай часу вопраткі, прыдавала ёй выгляд вясенняй жывасці». «Праворным махам рукі». «Але большае ўражанне выклікаў яе пранікліві погляд». «А мо адабрэнне?» «Пранікала ў душу». «Карпіцкі таксама накіраваўся паглядзець, як размяшчаюцца аддзелы». «Памяшканні для службы». «Рэзка непрыемна рыпалі цвікі пры распакоўцы скрынак» (35 бал.). «Густа пасеенымі, колеру ільнянога насення, плямкамі на твары» (36 бал.). «Ды гэтаму ж Баханская галаву закруціла, мусіць хоча выйсці за яго замуж». «У белай кофтачцы» (37 бал.). «Адсюль адкрываўся прыгожы малюнак». «Даклад датычыўся самавольных парубак лесу». «На гэтых днях зайшлі яны з Батурскім у партком пагутарыць наконт водпуску дрэва» (38 бал.) і г. д. і канца-краю няма гэтым «лунным лапам», на кожнай балоне, да самага канца. Усіх іх я выпісваць не буду, бо дзеля гэтага трэба перапісаць усю рэч, з пачатку да канца. Кожны сказ тут паказвае, што аўтар яго моўна думае па-расійску. Сапраўды, што гэта «вясна наступіла»? Наступіць можна (думаючы ў беларускай

мове) каму-небудь на нагу, можна наступіць на жабу і растаптаць яе. Але аўтар думаў: «весна в этом году наступила как-то рано». І пісаў гэта беларускай транскрыпцыяй, зменьваючы, як умеў, некаторыя словы. Але характар, кірунак сказа застаўся цалкам расійскі. «Ты занадта вялікае значэнне прыдаеш барацьбе»... Гэта значыцца, па-расійску дзіка-непісьменна напісана: «...большое значение придаешь борьбе»... Трэба ведаць, што мала замест «слишком» напісаць «занадта» і замест «большое» напісаць «вялікае». Трэба ведаць, што ёсць фразеалогія, уласцівы кожнай мове свой уласны кірунак сказаў. «Мы пераможам, калі асабістае, прыватнае прынясём у ахвяру»... Аўтар уяўляў сабе гэтак: «Мы победим, когда личное, частное принесем в жертву»...

Дзе аўтар чуў гэтакія характары сказаў? Калі ён чуў іх у канцылярыях, выдавецтвах, рэдакцыях, дык гэта не дазваляе яшчэ пісаць гэтак для друку. Бо збеларусізаваныя чыноўнікі, а часта і рэдактары, пазнаёміўшыся з «практычных слоўнікаў» з «беларускаю моваю», замест, напрыклад «я не имею охоты идти», гавораць: «я не маю палявання ісці», замест «половые отношения» гавораць «падлогавыя адносіны», замест «дай ключ открыть шкаф» — «дай крыніцу адчыніць шафу»... «Лунныя лапы» ўсялякіх «Над абрывам» якраз створаны гэтакім жа самым прынцыпам.

«Дык гэтаму ж Баханская галаву закруціла, мусіць хоча выйсці за яго замуж». Аўтар добра ведае: «она ему вскружила голову... выйти замуж», дык ён піша «галаву закруціла». Беларуская мова ведае гэтакі зварот, ён ёй вельмі ўласцівы, але ён ужываецца зусім іначай. Напрыклад, гэтак: «каб табе галаву набок закруціла». «На гэтых днях зайшлі яны да Батурскага». Не піша ён «гэтымі днямі», а «на гэтых днях». Як жа ён можа напісаць гэтак, як гаворыць беларускі селянін або не зрусіфікаваны рабочы, калі ён сам прывык гаварыць «на этих днях». Або «даклад датычыўся самавольных парубак». Ці не лепш жа было напісаць «доклад касался самовольных порубок»? Гэта была б жывая прыгожая расійская літаратурная мова. А то — пераносіць гэты, прыгожы ў расійскай мове, сказ у мову беларускую, не адчуваючы, што ў беларускай мове гэтакага кірунку няма. Уводзіць у беларускую мову «крыніцу, якою адчыняюць шафу» і думае гэтым дубовым пілавіннем забіць жывую прыгожасць народнай мовы. Няўжо гэта цяжка напісаць: «у дакладзе гаварылася пра са-

мавольныя парубкі»? Але дзеля гэтага трэба вывучыць мову, калі ўжо не давялося ведаць яе змалку.

Небеларуская фразеалогія захавана цалкам. Усё гэта атулена вянком з тых словаў, якія створаны паводле расійскіх, і створаны людзьмі, якім трэба было як-небудзь беларусізавацца. Яны добра ведалі расійскую мову, але зусім не ведалі беларускае. Дык замест таго, каб вывучыць беларускую мову, яны пачалі тварыць сваю, уласную. І, доўга не працуючы, можна сказаць, проста гуляючы, стварылі свой жаргон. І пішуць усялякія свае «сінеючыя, захаваўшыхся, падаючага, дадзеныя»... Трэба было яму ўжыць «безусловно». Але як ты яго тутака ўжывеш, калі трэба беларусізавацца. Дык ён падумаў: «условие» — кажуць людзі, што па-беларуску будзе «ўмова». Дык чаму не напісаць «безумоўна»? Або замест «у нас есть данные» не напісаць «у нас ёсць дадзеныя»? Усё як мае быць. Вось і пайшлі ўсе гэтыя «прыблізна, неабходна, адносна» і г. д. У народзе гавораць «збольшага работа скончана». Але кніжная мова трымаецца зусім іншых прынцыпаў. Вы думаеце, чалавек, які піша для друку, напіша гэтак? Ён напіша: «прыблізна работа скончана». І спакойны душою, што ведае беларускую мову.

Але асобныя славечкі — не гэтак яшчэ страшныя. Больш удалыя з іх прыжывуцца, няўдалыя могуць адсеяцца. Самая бяда гэта ў навязванні беларускай мове зусім неўласцівай ёй фразеалогіі. Гэта вядзе да таго, што ў быце беларускае вёскі, напрыклад, мова будзе адна, з усім яе хараством і багаццем арыгінальных формаў, а ў кнігах для гэтых жа самых людзей мова будзе іншая. Якраз тое самае, што даўней казалі: «вучыся, сынку, чытай кнігі, можа табе як бог паможа выйсці ў людзі. Дык не будзеш ты тады гаварыць гэтак проста, як мы, цёмныя людзі». Гэта не смех. Гэта горкая праўда. «Лунных лап» народная мова не ведае. Іх прыдумалі непісьменныя пісакі.

Можа хто скажа, што я наўмысля выбраў самы непісьменны артыкул і выцягваю з яго патрэбныя мне прыклады? Дык жа глянем у наступныя друкаваныя рэчы тае самае кнігі.

«Потым мой погляд паволі адхіляецца ўніз» (51 бал.). «Аднойчы атрымлівае ён прадмет сваіх некалькі гадовых летуценняў — ліст» (52 бал.). «Зразумела, ён атрымліваў вельмі добрую плату і вёў жыццё нейкага феадала» (53 бал.). «Маркел вандруе ў працягу цэлае ночы» (54 бал.) і г. д. Мы ўзялі з кожнае балоны па адным пры-

кладзе. Больш браць прыкладаў, гэта зн. перапісваць усё з пачатку да канца, не буду. Расійскаю моваю можа быць гэтак: «взгляд медленно скользит (ці нешта падобнае да гэтага, можа «отклоняется») вниз». Дык чалавек з лёгкім сумленнем піша: «погляд адхіляецца ўніз» і не можа ніяк адчуць, што «погляд» — гэта не тое, што «зірк», а гэта — «взгляд на вещи». А адхіліць можна якую-небудзь дошку, фіранку на вакне... Або «атрымлівае ён прадмет сваіх летуценняў — ліст»... Тут якраз «предлагается вам немедленно представить инвентарную опись на предмет учета данного имущества». У народных гушчах гавораць: «вандруе цэлую ноч», а ў кнігах для гэтых народных гушч пішуць: «вандруе на працягу цэлае ночы». І ўсё затым, што «в продолжении ночи».

Або расійскаю моваю гэтак льга сказаць: «имеются два взгляда». Дык на 69 бал. тае ж усё кнігі пішуць «маюцца два погляды». Калі згадзіцца, што гэта па-беларуску, ды калі сказаць гэта расійскаю моваю, дык яно будзе — «поживают два взгляда». Бо «маюцца» — гэта не «имеются», а набліжаецца гэта да расійскага «поживают»: «как они поживают?» — «Як яны маюцца?» — «А нічога, жывуць патроху». Або яшчэ адно адценне расійскае мовы ў гэтым слове: «Не живем, а маемся» (пакутуем). Ну, чым жа гэта не «падлогавыя адносіны»? Адным словам, можна сказаць, увесь тэкст складаўся аўтарамі або перакладчыкамі паводле таго, як гэта будзе па-расійску.

Я бяру № 2 за 1928 г. таго самага выдання. Разгортваю дзе прыйдзецца і гляджу, што трапіла на вочы. Чытаю на 22 бал.: «І не даацэніш, зразумела, і дней вольных — ліпнёвых, мёдам насычаных». «Дней насычаных!» Гэта якраз падобна да:

«Над магілаю чорных дней»...

Дык тут хоць дзеля рыфмы аўтар пастараўся, каб забыцца на беларускае «дзён» і пісаў расійскаю моваю «дней». А ў «дней насычаных» нават і рыфмы ніякае нідзе няма. Проста з ласкі на пацеху. Гэты ж самы аўтар у тым жа самым творы піша: «Захапляўся Язэп Леніным, яго жыццём, яго вялікай сілай у слове». Дык нават і сам аўтар ведае, прынамсі чуў (калі ўспамінае гэта) пра жывую вобразнасць і сілу ленінскае мовы, асабліва ў яго «обличительных» артыкулах і прамовах. І, ведаючы гэтакую сілу і хараство слова, якія грунтуюцца на багатых адценнях

расійскае народнае мовы, аўтар сам застаецца неахайным да свайго ўласнага слова, не надае яму аніякай цаны.

На балоне 71 — пасля таго, як яны «накіраваліся ў залю», адзін (аўтар гаворыць ад сябе) гаварыў: «калі б вы мелі магчымасць заглянуць да мяне»... Значыцца — «направились в зал»... «имели возможность заглянуть»... Дакладная расійская фразеалогія, нават аўтар не паклапаціўся перакласці на беларускую мову як належыць. На бал. 73 — «воўк душу выматвае» («Выматывает душу»).

«Рабочаму не павінны быць страшнымі перашкоды на шляху яго пасоўвання наперад» («продвижение вперед»)... «І слясарскае і, нават, сталярскае рамёствы яму не чужы» (яму не «чужды». «Сумею даць» («сумею дать»). «Пастараюся ўскладзеныя на мяне надзеі апраўдаць,— заключыў Якаў Гузік» («Заключил»). «Намякалі...» — Гэта ўсё на адной толькі 25-й балоне нумара 1 таго самага выдання за 1928 г. Або ў тым жа самым творы славечкі і моўныя звароты: «недаўмяваў», «цярацъ»! Дык чаму ўжо зусім не пісаць, напрыклад, гэтакаю моўнаю формаю: «жалацельна здзелаць савяшчанне і ісчарпаць эці вапросы, каб саздаць упечатленне?» Гэтакі жаргон спрабуе ўкараніцца, як належыць, у нашым пісьменстве.

У нас не разумеюць, што пераклад літаратурнага твора з чужое мовы ёсць тая ж самая літаратурная творчасць. Перакласці твор дакладна — невялікая навука, але трэба перадаць яго літаратурнасць, «душу» гэтага твора. Дзеля гэтага трэба ўладаць словам, трэба адчуваць мову, адчуваць безліч адценняў у кожным слове. Пераклад літаратурнага твора гэта не ёсць механічная праца. Пераклад на беларускую мову рамана І. Бехера «Адзіная справядлівая вайна» найлепш даводзіць усё гэта. Не можа быць, каб І. Бехер ужываў у сваім пісьменстве гэтакія тэрміны, як «усім тыканнем нашага сэрца». А «Полымя» здолела гэтае «тыканне сэрца» надрукаваць у сваім чацвёртым нумары. «Чурбаны», «тысячы нясуцца», «пералязалі праз парканы», «пранік»... Усё гэта на адной 67 балоне. Там жа і «зграі дзяцей моцна чапляліся за спадніцы матак...». Гэта апісваюцца няшчасныя дзеці тады, калі горад спасцігла вялікае гора і бяда. Няўжо пралетарскі пісьменнік назваў натоўп дзяцей зграяй, ды яшчэ ў часе вялікіх сацыяльных бяднот? Зграя можа быць груганоў, шкоднікаў, драпежнікаў, а не дзяцей. І каб перакладчык адчуваў мову, ён не напісаў бы гэтак.

«Хмурнае сычэнне і шыпенне насіліся ў паветры, як

грымоты, прыдушаны ўраган... Бутлі, напоўненыя якойсь густой кляючай масай, качаліся ўгары над дахамі. Якісь смалісты састаў ліўся сам сабою з куба ў куб. Складаныя сумесі ўтвараліся пры дапамозе найдакладнейшых дзіўных апаратаў. Некалькі платформаў, якія былі пабудаваны паміж катлоў, рабілі на Макса ўражанне гатычных цэркваў...»

Што тут ёсць беларускага ў гэтай «кляючай масе» нейкага жаргону?

Якое ж дзіва пасля гэтага, што нашы газеты распаўсюджваюць страшэнную непісьменнасць і моўную некультурнасць! Асабліва гэтым вызначылася «Чырвоная змена». Мова гэтае газеты — гэта ад пачатку і да канца ўсё «лунныя лапы». Жывога слова там і заваду няма. Калі хто з працаўнікоў гэтае рэдакцыі і ведаў калі-небудзь беларускую мову, дык гэтыя веды затанулі ў моры «лунных лап». Я не шукаў адмысловага паасобніка «Чырвонае змены», а ўзяў той, які ў мяне якраз ляжаў на стале. Гэта № 94 (621). «Лунных лап» тут доўга шукаць не трэба.

«Усё растучая ваенная небяспека». «Акажа дапамогу». «Пагэтаму» — («поэтому»). «Будучых боек». «Французская секцыя КІМу працягвала хаваць слаўныя традыцыі». «Сумела ажыццявіць». «Раздаваліся гучныя словы». «Дастойныя словы». «У будучай перамозе».

Гэта ўсяго з двух невялічкіх артыкульчыкаў; дый не ўсё яшчэ гэта з іх выпісана. Або вялікімі літарамі загаловак: «Падаючага — піхні». Гэтак яно, мусіць, і робіцца. «Чырвоную змену» трэба, каб чытала моладзь. Чытае моладзь, якая знішчае сваю непісьменнасць. І, навучыўшыся чытаць, гэта моладзь вучыцца ў газеце непісьменнасці. Што б гэта сказалі расійцы, каб хто на расійскай мове замест «на крыше растут мхи иные, чем в лесу» напісаў — «на крышы растут мохи иные, чым в леси». А ў нас беларускую мову падаюць у гэтакім выглядзе.

Вось яшчэ трохі жаргону з таго ж паасобніка «Чырвонае змены»:

«На самай справе». «Мігам праскаўзне міма», «Пачалі перагортваць карты, пачалі глядзець, ці няма дзе-небудзь зорак, якія па меры перагортвання аказаліся б больш і больш разыходзячыміся, якія ўсё больш адлучаліся адна ад другой...»

Успамінаецца яшчэ адзін загаловак: «Дарагога тава-

рыша не стала». Калі згадзіцца, што гэта напісана беларускаю моваю і калі выказаць гэта расійскаю моваю, дык яно будзе: «Дорогого товарища не серьезно». Бо «сталы» — гэта ў нашай мове «серьезный». А «стала» — «серьезно».

Або вось у дадатку да «Савецкай Беларусі» надрукавана нататка пра Л. Талстога. Дык яна займае ўсяго якіх-небудзь 180—200 газетных радкоў, а ў ёй «лунных лап» не абабрацца: «Старец, паражэнняў, цянётах, фігуру, нанясення, верная мерка, выступаючай, адкрыўшы («открывший»), пажадаўшыя, іспуючага, укладам эканамічных адносін...»

У п'есе «Каля тэрасы», якую ставіць Другі Беларускі дзяржаўны тэатр, ёсць гэтакая з'ява. Бяжыць сялянка і крычыць: «У чым справа, у чым справа?» Няўжо гэта крычыць сялянка? Не, гэта крычыць сам аўтар п'есы. Ён думаў: «в чем дело» і пісаў «у чым справа». Дзе гэта аўтар чуў, каб сялянка гаварыла гэтак? Таму і чуецца тут фальш, таму і траціцца вобраз ці тып сялянкі. І вінавата тутака моўнае думанне аўтара, якое зусім чужое сялянцы-беларусцы.

Або ў гэтакім надзвычайна мастацкім тэатравым паказе, як «Сон у летнюю ноч», сказ «Ужасу больш»?! Якія надзвычайныя хвіліны асалоды перажывае глядач, бачачы і чуючы ў тэатры выкананне ролі кіраўніка грэцкіх бадзякаў-актораў! (Ролю гэтую выконвае, здаецца, артыст Сяргейчык). Якое надзвычайнае хараство ў адценнях гутаркі, якія суладжаны з рухам цела гэтага чалавека! Надзвычайна высокае мастацтва ў выкананні гэтае ролі. Артыст здолеў перанесці гэтага грэцкага тыпа ў нашу сучаснасць — вібрацыяй голасу, хараством мовы, яе адценнямі і нюансамі слоў, надаўшы яму каларыт беларускага селяніна. І як гэтую надзвычайную стыхійную прыгажосць псуе адно толькі слова!

Вельмі праўдзіва сказаў адзін расійскі сучасны паэт: «слово — это полководец человечьей массы». Мова — гэта матэрыял для мастацкага твора. І няўжо трэба, каб гэты матэрыял быў дрэнным? У тэатры слова мае вялікае значэнне. Як тэатральная тэхніка павінна быць удасканаленаю, як развіццё тэатральнага паказу павінна ісці паводле пэўных законаў, гэтак і мова ў тэатры не павінна быць абы-якою. Найвыдатнейшыя мастакі сцэны пра мову ў тэатры клапоцяцца не менш, як пра ўсе іншыя галіны тэатральнага мастацтва.

Перапалоханая сялянка крычыць «у чым справа?». Няхай бы ўжо, нечага, яна, каб вытрымаць стыль аўтара гэтае п'есы, крычала: «У чым справа?! У мэтах рацыяналізацыі часу і адносна гэтага месца, безумоўна, не мэтазгодна паднімаць тут гэтакі вэрхал!»

Вядома, што аўтар тут выказаў тое, што хацеў выказаць. Непаразуменне сялянкі паказана. Але выказана ў гэтакай мове, што тып сялянкі, якi, скажам, раней ужо ўяўляцца пачаў гледачу, разбіўся і прапаў ад аднаго слова. Сялянка пачула нейкую незвычайную гаворку, нейкі крык, убачыла незнаёмых людзей, устрывожылася і замест «што гэта робіцца?», або «што там гэта», крычыць «у чым справа?». Аўтар падаў гэта па-свойму, сказаў гэта ад сябе, а не ад таго чалавека, якога хацеў паказаць.

Або вось яшчэ з аднаго тэатральнага твора. «Я думаю аб нашых адносінах з табою». «Пачалі адкрываць адзін аднаму свае таямніцы...» «Зловіш якога злодзея, пачнеш допыт яму рабіць» і г. д. і г. д. Тут усё дакладна выказана, што хацеў выказаць аўтар. Але гэтакі кірунак, гэтакі дух мовы ўжываюць людзі, якія ўсё жыццё сваё працавалі дзе-небудзь у канцылярыях на расійскай мове. І, нарэшце, давялося ім беларусізавацца. І гавораць яны мовою як быццам і беларускаю (бо не расійская ж гэта мова). Але мова гэта цяжкая, сухая, нежывая.

Мова — жывая істота. Яна жыве, а не існуе. Адным словам можна вельмі шмат выказаць, або тым жа самым словам нічога не сказаць. І гэта нават можа быць ад таго, як гэтае слова выгаварыць. Напрыклад, можна сказаць «ты не ведаеш». І можна сказаць: «вельмі ты ведаеш!» Выказана тое самае, але другі раз — мацней, нават з адзнакамі кпін. Але нашым літаратарам гэтае моўнае багацце не абыходзіць. Вывучэнне мовы — гэта, кажуць, задача лінгвістаў, а пісьменніку трэба ставіць праблемы, «адбіваць сучаснасць». Але мала хто думае, што для гэтага патрэбна нейкая, калі льга так сказаць, рэчаіснасць, нейкі матэрыял. Усякі ж ведае, што з дрэннага матэрыялу нават кашаля не сплецеш, не то што якога-небудзь твора.

Жонка Льва Талстога ў сваім дзённіку пісала, што Л. Талстой ніколі не пакідаў, да канца жыцця свайго, вучыцца расійскай народнай мове. «Считая свой язык русский далеко не хорошим, не полным, Л. Н. поставил целью своей в это лето изучить язык в народе. Он беседовал с богомольцами, странниками, проезжими и все записывал

в книжечку народные слова, пословицы, мысли, выражения». (Занатавапа 31 студзеня 1881 г.).

Дык натое гэта быў Л. Талстой! Але што значыць народная мова аўтару якога-небудзь «Над абрывам»?! Яго сумленне чыстае. Ён не можа і падумаць, што сваім пісаннем разбурае наша моўнае багацце і ўводзіць замест яго нейкі свой жаргон. Яму абы пісаць. Яму і не ў галаве, што якое б там друкаванае слова ні было, яно ўсё ж друкаванае слова. Яго чытаюць, чытаючы, вучацца і... псуюць сваю пісьменнасць.

Я працую ў рэдакцыі «Беларускае вёскі», і мне даводзіцца чытаць вельмі шмат допісаў з вёскі і літаратурных твораў маладых вясковых аўтараў. Дык я на выразных прыкладах бачу, як друкаванае слова псуе пісьменнасць моладзі, забівае ўсю яе прыродную чуласць да мовы. Адзін аўтар пісаў у рэдакцыю: «Паважаная рэдакцыя! Я прашу, каб вы надрукавалі маё гэтае апавяданне ў «Чырвоным сейбіце». Можа яно і не варт гэтага, дык я прашу, каб вы папраўлі яго. А калі і гэта не паможа, тагды напішыце мне, чым маё апавяданне нягоднае, каб я другі раз ведаў, як лепш пісаць. Гэтыя маркі я шлю вам на адказ»... і г. д. Відаць было, што піша чалавек пісьменны. Ліст гэты ён напісаў жывою моваю, бо гэта аўтар гаварыў з рэдакцыяй. Але тое, што ён пісаў для друкавання, не мела і заваду жывое мовы. Гэта была самая сапраўдная кніжная выдуманая мова. Апавяданне тое пачыналася гэтак: «Заходзячае сонца чырвонымі праменнямі аблівала захад. Вецер распаўсюджваў пах кветак. На цямнеючых балотах заціхалі птушкі, і ў хуткім часе наступіў вечар»... І далей падобна да гэтага. Якраз выходзіць, што для хатняе гутаркі, на абыходак у жыцці — ёсць адна мова, свая. Але для кніг павінна быць нейкая іншая мова. Бо калі дома чалавек гаворыць «я хадзіў па сена», дык у кнігах ён чытае: «я хадзіў за сенам». І вядома, што будзе вучыцца пісаць паводле таго, як ён чытае ў кнігах.

На вялікі жаль, усё гэта праўда. Калі ён піша ў рэдакцыю ліст, дык ліст гэты напісаны па-людску. А калі пачытаеш тое, пра што ён піша ў лісце — яго літаратурны твор — дык у творы гэтым жаргонная плынь выпіхае жывую мову.

У літаратуры бывае гэтакая з'ява, што часамі пісьменніку трэба востра парушаць законы мовы. Гэта тады, калі пісьменнік выводзіць гэтакага тыпа, які або ад прыроды

свае пе выгаворвае, як належыць, слоў, або з'яўляецца чужаземцам і цяжка яму гаварыць той моваю, якою пішацца твор, або з якіх-небудзь іншых прычын проста не ведае мовы. Дык тады пісьменнік паказвае гэтакага тыпа з яго жаргонам. Напрыклад, у Максіма Гарэцкага, у яго творы «Антоні» ёсць «Міхалка-масковец, які Масквы бачыў мала». Дык ён строіцца гаварыць расійскаю моваю і гаворыць жаргонам. У расійскай літаратуры ў раманах Ф. Дастаеўскага часамі спатыкаюцца абруселыя немцы, у якіх расійская мова з нямецкім акцэнтам. У Л. Талстога ў «Вайне и мире» ёсць шапялявы афіцэр Дзяпісаў, які слова «пришел» гаворыць «пг'ишел». Але з тае прычыны, што літаратура афармляе культуру мовы, ніводзін сапраўдны мастак слова не дазволіць, каб увесь твор быў у жаргоне гэтых тыпаў. Тады нельга будзе залічыць гэтакі твор ні да беларускай, скажам, ні да ўкраінскай, ні да нямецкай літаратуры. Гэта будзе жаргонны твор. І паказваюць гэтых тыпаў у сваіх творах некалькімі трапнымі рысамі, двума ці трыма іх жаргоннымі сказамі. Трэба знайсці іншыя сродкі выявіць гэтакага тыпа, каб твор быў на мове, а не на жаргоне. Калі, скажам, Л. Талстой выводзіў расійскіх дваран, што жылі ў пачатку 19 стагоддзя, дык не пісаў жа ён сваіх твораў французскай моваю — той моваю, якою найчасцей гаварылі гэтыя людзі. Французскага тэксту ў гэтых творах толькі дзе-нідзе ёсць. А найбольш можам прачытаць гэтакія, напрыклад, месцы: «я не чувствую ничего этого,— сказал он на превосходном французском языке». І гэта тут справа з найбагацейшаю кніжнаю моўнаю культураю. Дык асабліва ж з жаргонам трэба асцерагацца, каб не «акаляць» ім літаратуру. А ў нас робіцца гэтак. Спаткаўшы якога-небудзь яскравага тыпа з камічным жаргонам, пісьменнік, думаючы, мусіць (гэтак кідаецца ў вочы), што гэта цэнтральны герой нашай літаратуры, вядзе яго праз увесь свой твор з яго жаргонам. Замест таго каб іншымі сродкамі мастацтва паказаць яго, ужыўшы яго жаргону гэтулькі, колькі не папсуе мастацтва ўсяго твора, літаратар увесь свой твор выпускае ў гэтым жаргоне. Гэтакія з'явы шкодзяць нашай беларускай літаратурнай культуры, бо наша літаратурная мова толькі цяпер пачынае крышталявацца. Вось чаму вельмі прыкра і шкодна, калі некаторыя творы, траха не цалкам, падаюцца ў гэтакай мове: «Як я люблю эці вечары! Оне асвяжаюць маю жысць... Толькі і суцяшэння... Ня то б — загразла ў гэтай... бросні, у гэтай ціне... Нет! Пускай Павал

прыезжае, і я перад ім пастаўлю вапрос рубам: паследні раз, апошні раз»...

Гэты твор пісаўся для тэатра. І што было б, каб гэтую мову чулі тысячы людзей з тэатравай сцэны? Ці не прысадзіў бы ён да рэшты нашу пакутную культуру літаратурнае мовы? І ці сапраўды гэтакія героі, з такою моваю, павінны займаць цэнтральнае месца? Увайшоўшы ў літаратуру з правам цэнтральных герояў, яны ўносяць у яе і свой жаргон. А сапраўдны цэнтральны герой нашае літаратуры — селянін і рабочы, якія захавалі і стварылі надзвычайную культуру свае мовы ў шмат якіх «вышэйшых формах культуры»,— маўчаць. Або вось у адным творы апісваецца інтымная блізасць мужчыны і жанчыны, цэнтральных герояў твора. Дык яна кусае яго і крычыць: «Бог мой, мучыцель мой!» А сапраўды — ці цэнтральныя ж гэта героі нашае літаратуры?!

У расійскага пісьменніка К. Федзіна, у рамане «Города и годы» кватэрная гаспадыня, немка, гаворыць: «Я тафно тумаль, што он змешалься! О, это ушасни!» Што б гэта было, каб К. Федзін зрабіў цэнтральным героем свайго твора гэтую немку і каб увесь раман, або хоць палавіна яго была напісана ў гэтакай мове? А ў нас гэтак пішуць.

Самі аўтары не клапоцяцца пра беларускую культуру беларускае мовы. А іх героі да рэшты глумяць гэтую культуру. «Лунныя лапы» жывуць і ўкараняюцца.

І гэта не выпадак з двума ці трыма літаратарамі. Гэта цэлая плынь у нашай літаратуры. Прадстаўнікі гэтае плыні даводзяць, што літаратар не павінен клапаціцца ні пра мову, ні пра стыль свайго твора. Ён можа абы-як перадаць сюжэт. А стыль і мову яму зробяць і выправяць выдавецтвы і рэдакцыі.

...«Наогул, нашым сучасным выданням бракуе пэўнай стылістычнай апрацоўкі — рэдакцыі. Тут ясна, што сам аўтар не можа быць рэдактарам сваіх твораў. Думаецца, што пры наладжанай стылістычнай рэдакцыі шмат якія творы, што цяпер выкідаюцца Дзяржаўным выдавецтвам без абы-якой рэдакцыі, мелі б больш адшліфаваны, гожы выгляд»... («Полымя», № 7 за 1927 г., бал. 254).

Дзе гэта ёсць, каб культурны пісьменнік дазволіў каму-небудзь правіць стыль і мову свайго твора? Стыль і мова — гэта ж выяўленчыя мастацкія сродкі пісьменніка. Ніякіх жа стыляў тады не будзе, а будзе «наогул». І хоць шмат таго, што друкуецца ў некаторых нашых «тоўстых»

часопісах, пускаецца на ўзвей вецер, усё ж гэтая прапанова паказвае на ўзровень культурнасці ў некаторых нашых інстытуцыях, што падручыліся фармаваць вялікую культуру гушчаў беларускіх сялян і рабочых. І як далёка яны асталіся ад гэтай культуры!

Пралетарскі змест і нацыянальная форма культуры! Мы думаем, што для нашае культуры гэта павінна быць: пралетарскі змест і беларуская форма. А гэтае беларускай формы і заваду няма. У літаратуры — кірункі мовы, фразеалогія, а значыцца, і стылі цалкам пераймаюцца чужыя.

Літаратурная мова павінна быць моваю чыстаю, беларускаю. Карэнні яе — у мове народнай. Літаратары павінны навучыцца моўна думаць па-беларуску. Яны павінны абудзіць у сабе або пастарацца ўспрыняць (калі не давялося мець яе змалку) беларускую моўную стыхію. Бо калі гэтага не будзе, яны будуць, як і цяпер, шкодзіць нацыянальнай форме культуры. Беларуская фразеалогія ў беларускай літаратурнай мове будзе спрыяць вырашэнню праблемы *беларускага* стылю нашае паслякастрычніцкай літаратуры.

# (РЭЦЭНЗІЯ НА ЗБОРНІК ВАСІЛЯ СТЭФАНІКА «ТВОРИ»)

Лёс Украіны апошнія стагоддзі быў падобен да лёсу Беларусі. Аднолькавая падвойная няволя была ў гэтых краінах — сацыяльная і нацыянальная. Заходняя Украіна гэтаксама, як і Заходняя Беларусь, аднолькава перажываюць і цяпер гэтую няволю.

Васіль Стэфанік — паэт Заходняе Украіны. Гэта паэт замучанага вякамі сялянства. Таго сялянства, якое вечна церпіць голад, вечна працуе на пана і чыноўніка.

Свае зямлі ў беднага сялянства Заходняе Украіны мала. Яе прыбіраюць да сваіх рук — паны, духавенства і заможнікі. Сялянская гаспадарка драбнее і знішчаецца. І самі «гаспадары» — робяцца, парабіліся жабракамі.

Калі чытаеш гэтую кнігу Васіля Стэфаніка (збор навел і апавяданняў), дык забываеш, што гэта кніга, а не само жыццё. Як жывыя, праходзяць перад табою страшныя малюнкі чалавечых пакут, змучаная душа гэтых пакутнікаў. Паэт падымае заслону перад чалавечаю душою і паказвае — які вялікі і глыбокі свет там, у чалавеку. У герояў Васіля Стэфаніка няма «звычайнага» стану ў іх настроях, характарах. Яны ўсе знаходзяцца ў стане тэй духоўнай напружанасці, якая бывае толькі ў якія-небудзь незвычайныя моманты жыцця. Бо і сапраўды, само жыццё гэтых герояў ёсць тая незвычайнасць, тая ненармальнасць, якая хоць і з'яўляецца спадарожнікам чалавеку з пялёнак і да труны бесперарыўна, але ніколі не можа стаць звычайнасцю. Голад, напрыклад, заўсёды будзе ненармальнасцю, колькі б чалавек ні галадаў.

Васіль Стэфанік — не пісьменнік быту. Хутчэй яго льга назваць тварцом псіхалагічнае навелы. Ён не расказвае пра бытаванне сваіх герояў, ён бярэ які-небудзь адзін момант, заўсёды характэрны і тыповы, і яго героі дзейнічаюць, гавораць. І гэткім спосабам яны паказваюць самі, чым і як яны жывуць.

Страшныя малюнкі хворае напружанасці чалавечае душы праходзяць перад чытачом. Напружанасць, якая хоць і не дае чалавеку спакою ўсё жыццё, усё ж не можа стаць абыклаю.

Апавяданне **«Кленови листки».**

У чалавека нарадзіўся сын. Але чалавек гэты — адвечны нявольнік. Гэта селянін, які працуе больш усяго на

панскай зямлі, бо свае мае столькі, колькі хапае для таго, каб цяжка і шмат рабіць на ёй і ніколі не мець свайго хлеба. Дык і нараджэнне сына для гэтага чалавека не радасць, а няшчасце. Ён гэта і гаворыць суседзям, якія сабраліся на радзіны. Ён недзе дастаў гарэлкі і хлеба, частуе суседзяў і бядуе, што вялікае няшчасце спасцігла яго. Бо якую долю ён дасць свайму дзіцяці? Бо няўжо гэта бацьку радасць, што дзіця яго неўзабаве або зойдзецца з голаду і без догляду, або будзе ўзрастаць на пацеху багатым — з малых год парабкам, нявольнікам? Ён сумуе, бядуе, бо ў хаце яшчэ і без гэтага сядзяць галодныя дзеці і ляжыць ледзь жывая пасля радоў маці гэтых дзяцей. Ён, страшэнна любячы сваіх гэтых бедакоў-дзяцей, хварэючы душою і сэрцам над імі, над тым, што з першых дзён жыцця свайго спаткалі яны пакуту, гаворыць: «Та чому не летите з моэі голови? Я вам розчиню й вікна і двері, гай!

Діти засунулися на піч, так, що їх не було вже видно.

— От сарана, ліш хліба та й хліба, та й хліба! А відкиль ж я тобі таго хліба наберу?!!»

І яшчэ гаворыць пра сябе:

— ...А ў вечар, лиш покажешся до хати такий, як віхоть, а вони тобі в один голос... і жінка і діти: «нема хліба!» Та й ти не йдеш, бідній чоловіче, спати, але ти цягнеш ціп та й молотиш напотемки...

І там работа зваліць яго на ток, гэтак ён перабудзе ноч, а раніцаю ўстае зноў рабіць «такий чорний, що сонца перед тобою меркне».

А дзіця тое!

«...Я не чекаю, щоб воно убралося в силу... щоб воно коло мене нажилося. Коби лиш богач або пан раззявів пащеку, то я його туды кидаю, щоб лише збутися! А потім воно бігаэ коло худоби, ноги одна рана, роса їсть, стерня коле, а воно скаче та й плаче, ти б йому завернув худобу, поцілував б його в ноги, бо ти його сплодив та й сумління тебе п'э, але мінаэш, ще й ховаэшся від нього, щоб його не чути».

«Аж пачервонів, аж задихаўся».

А яно расце, ад голаду часамі ўкрадзе якую драбязу, а за гэта з'яўляецца ўлада, і зноў няшчасце над галавою гэтага бедака.

Гэтая споведзь чалавека адбываецца перад людзьмі, якіх пазваў ён на радзіны.

А праз тры дні, калі ён касіў, жонка яго, маці малых дзяцей, умірала ў хаце. І, уміраючы, паказвала старэйша-

му Сымонку, як саліць гуркі, каб было што ім «есці з хлебам хоць першыя дні, пасля яе смерці».

Ёй муж дастаў булку. І Сымонка гаворыць маці:

— Тата казаў даваць вам сцюдзёнай вады і булку есці. Марыля (меншая дзяўчынка) тую булку ўхапіла і ўкусіла ўжо раз. Але я набіў яе і адабраў. Будзеце есці?

— Не хачу.

— Тата ссукалі яшчэ свечку і казалі, што як будзе ўміраць, каб даць у рукі і запаліць. Але я не ведаю, калі даваць.

Маці паглядзела вялікімі, бліскучымі вачыма на сына. Бяздонне смутку, увесь жаль і бяссільны страх сышліся разам у вачах і разам спладзілі дзве белыя слязінкі.

— Тата рана на панадворку таксама плакалі, так галавой аб вушак біліся. Заплаканы ўзялі касу дый пайшлі...

— Сымонка, прасі татку, што мама наказвала, каб вас любіў...

— Ешце булку...

— Спявай дзіцяці, хай не плача...

Сымонка ўзяў дзіцянё, але спяваць не ўмеў. Маці абцерла далонямі сухія губы і заспявала.

Гэта яна ўмірала.

«В слабім, уриванім голасі виливалася ї душа й потихеньку спадала між дітей і цілувала їх по головах. Слова тихі, невыразні, говорилі, що кленови листочки розвіялися по пустім полю і ніхто їх позбирати не може, і ніколи вони не зазеленіють...»

Апавяданне **«Злодій»**.

Гэты злодзей пайшоў красці з голаду. І пайшоў красці да таго, каму хоць самому выбірайся з хаты дзеля гэтае ж справы. Гаспадар злодзея злавіў і пазваў суседзяў, каб памаглі біць яго. Тыя прыйшлі, бо «злачынства ж павінна быць пакарана». Біў яго гаспадар паленам, таптаў нагамі, скрывавіў. Злодзей не падаваўся без супраціўлення, сам быў даў гаспадару. Пасля быў перапынак у гэтай нечалавечай рабоце, у часе якога з'явілася адвечная спадарожніца бедакоў — гарэлка. Пілі і папрасілі ледзь жывога злодзея піць з імі. Папрасілі, а не загадалі. «Пі,— сказалі,— бо будзем цябе біць, дык каб быў мацнейшым цярпець». І той пачаў піць, седзячы з імі поплеч за сталом, скрываўлены, змучаны. П'ючы, гаварылі без злосці, а сапраўды як у часе перапынку ў якой-небудзь рабоце.

Чалавек выправіў сына на заработкі, і ён там памёр. Бацька прыехаў убіраць яго на смерць і галасіў над ім.

Чалавек — які выбіраецца на заработкі, кідаючы дома галодную сям'ю і дашчэнту разбураную гаспадарку,— і што гаворыць і перажывае гэты чалавек!

Дзеці — гэтыя кветкі, гэтыя «кленови листки», яны, як пыл на дарозе, сапраўды як тыя «кленови листки», што апалі на дарогу — топчуцца жыццём у гразь!

Уся гэтая кніга — вялікае замілаванне найвыдатнейшага паэта Васіля Стэфаніка да людзей-бедакоў, скарга, пакутная паэзія бядняцкага неўрадлівага поля. Васіль Стэфанік — паэт заходнеўкраінскага беднага сялянства.

У гэтую кнігу ўвайшлі яго ранейшыя творы. Яны нам зразумелыя і блізкія, бо ў іх мы можам угледзець сваю Беларусь — і пад царскай Расіяй, і цяперашнюю Заходнюю пад Польшчай. Гэта ўсё нам знаёма — і селяніну-бедняку, і гарадскому пралетару, і парабку, і, нарэшце, той частцы нашай працоўнай інтэлігенцыі, якая сапраўды ведае беларускае мужычае жыццё, бо сама выйшла з гэтых мужыкоў, парабкаў, гарадскіх пралетараў, з таго жыцця, у якім сапраўды руйнуюцца межы дазволенага і недазволенага. Кніга Васіля Стэфаніка — поўная мастацкае праўды — ёсць вялікі пратэст супраць сацыяльнае няроўнасці, супраць панавання адных і нявольніцтва другіх. Гэта пратэст своеасаблівы. Ён схаваны па-за ціхімі, чулымі словамі твора, але ў гэтым і ёсць сіла мастацтва. Гэта тыя «кленови листки», якіх неміласэрна топчуць у зямлю і якія, самым фактам гэтага, абуджаюць нястрымнае жаданне пратэставаць. Гэтая кніга належыць да тых кніг, якія пасля прачытання ніколі не забываюцца. Па сіле мастацкае глыбіні і праўды гэта найвыдатнейшы твор найвыдатнейшага мастака.

# ПЕРАД ДРУГІМ ДЗЕСЯЦІГОДДЗЕМ

Дзесяцігоддзе БССР ёсць завяршэнне пэўнага этапа ў развіцці беларускае культуры. За гэты час мы маем вялікія дасягненні ў нашай гаспадарчай, культурнай працы. За гэты час вырасла шмат новых, маладых сіл, патрэбных для развіцця культуры і гаспадаркі. За гэты кароткі час Беларусь, тая краіна, якая доўгія вякі цярпела падвойную няволю — і сацыяльную і нацыянальную, якая не мела нават права звацца сваім імем — Беларусі — цяпер гэтая краіна стварыла сваю Акадэмію навук. Беларуская культура вырасла гэтак, што ў працэсе свайго далейшага развіцця падышла да вышэйшага афармлення. Гэта — вышэйшыя формы культуры.

Гэтае разуменне — вышэйшыя формы — не павінна звужацца да пэўных толькі літаратурных жанраў. Бо і гэтыя жанры, якіх бы яны высокіх кампазіцыйных і іншых якасцей ні дасягалі, залежаць ад агульнага афармлення культуры. Вышэйшая форма — гэта ўзвышэнне да культуры і нават, у нашых умовах, шмат дзе, да культурнасці творчае прадукцыі і спосабаў творчасці. А тут пачынаюцца ўжо межы вышэйшых літаратурных жанраў і кампазіцый. Галоўнае ва ўсім гэтым працэсе — змаганне за беларускія формы беларускае культуры (літаратура, тэатр, музыка, жывапіс...).

На першы план тут становіцца культура мовы. Гэта не ёсць толькі карэктыва асобных слоў і выразаў, тут больш важнае — гэта беларускасць моўнага кірунку, чыстата і культура моўнага афармлення з'яваў культуры ці то літаратурных твораў, ці то тэатральных паказаў, ці наогул мова ўсіх беларускіх кніг — літаратурных, навуковых, практычных, палітычных...

Тое ж самае і ў вобразах музыкі, жывапісу. І тут павінна быць змаганне за беларускасць вобразаў. А гэта вырашае пытанне стыляў. І гэта ж усё вырашае пытанне нацыянальнае формы культуры. Далейшае крышталяванне і культура нацыянальных форм, пры пралетарскім змесце — вось аснова тых вышэйшых форм.

Мінулае дзесяцігоддзе пакінула найбагацейшую спадчыну — і творчую практыку, і выразныя, рэчаісныя дасягненні культуры. І на грунце гэтае спадчыны будаўніцтва беларускае культуры на другое дзесяцігоддзе яе будавання набывае яшчэ шырэйшы і адказнейшы размах.

Вывучэнне вобразаў народнае творчасці, скарыстанне іх у справе стварэння нацыянальных форм культуры — вось патрабаванне нашай культуры да культурных працаўнікоў і інстытуцый, якое не зменшылася, а павялічылася.

Мінулае дзесяцігоддзе стварыла музычную і мастацкую школы (тэхнікумы). І гэтыя школы павінны даць не толькі пісьменных у сваёй галіне людзей,— патрэбных працаўнікоў. Задача яшчэ гэтых школ — і самая важная задача — выхаваць такіх працаўнікоў, якія б давялі беларускую музыку да яе вышэйшых формаў, якія б стварылі беларускі жывапіс (жывапіс разумеецца ў шырокім сэнсе). Каб гэтыя мастацтвы мелі сваю нацыянальную, беларускую форму. А гэта ўскладае на гэтыя школы зусім адмысловыя задачы. Гэтыя школы павінны мець гэтакі кірунак свае працы, каб стварыць усе ўмовы дзеля таго, каб стаць з цягам часу вышэйшымі беларускімі школамі музыкі і малярства. Задачы папулярызацыі беларускае песні павінны саступіць першае месца стварэнню вышэйшага беларускага музычнага мастацтва, якое павінна быць аснована на гэтай жа песні, на гэтым створаным і ўдасканаленым народам матэрыяле дзеля вышэйшых форм музычнае культуры. Вывучэнне ў мастацкім тэхнікуме сучасных мастацкіх дасягненняў, падрыхтоўка патрэбных працаўнікоў-мастакоў павінна гэтаксама ісці пад кірункам стварэння беларускага малярскага мастацтва і ўзвышэння яго да вышэйшых формаў.

Галоўная задача тэатра — стварэнне беларускага тэатральнага мастацтва. Гэтая задача цесна звязана з задачамі нашае літаратуры. Пытанне беларускага стылю, а значыцца, і беларускае нацыянальнае формы — тут на першым месцы.

Галоўныя мэты і тэатра і літаратуры — сыходзяцца. Гэта тое, што ў шырокім сэнсе можна назваць разуменнем жыццебудаўніцтва. І гэта робіць і літаратуру і тэатр найадказнейшымі галінамі нашае культуры.

Разуменне задачы літаратуры як «жыццебудаўніцтва» ёсць разуменне вялікае з'явы, прагрэсіўнае, дзейнае. Бо наш сённяшні дзень мае за сабою сваё мінулае і выразна ставіць задачы заўтрашняга. Таму і літаратура і тэатр не павінны «адбіваць эпоху» («адбіваць» — разумеюць — «адлюстроўваць») або «ставіць праблемы», а тварыць эпоху і вырашаць праблемы. Толькі гэтакім чынам літаратура будзе сапраўды «жыццебудаўніцтвам», а не пазадкамі

жыцця, будзе сапраўды зброяю ў руках пралетарыята.

Мінулае дзесяцігоддзе арганізавала новую беларускую паслякастрычніцкую літаратуру, пралажыла цвёрдыя шляхі для яе далейшага развіцця; наша савецкая рэчаіснасць дала ёй найвялікшыя магчымасці. І наша літаратура за гэты час мае вялікія дасягненні. І з кожным годам пралетарская літаратура, пралетарская культура робіцца і будзе рабіцца наймагутнейшаю з'яваю жыцця краіны, адным з сродкаў творчасці гэтага жыцця.

У выхаванні новага чалавека, чалавека сацыялістычнай грамады, літаратура адыграе вялікую ролю і гэтакую літаратуру праз сваіх прадстаўнікоў — літарататараў творыць тая частка грамады, якая цярпела сацыяльнае прыгнечанне, а ў нас на Беларусі і нацыянальнае. Гэта рабочы клас і беднае сялянства. І галоўны герой нашае літаратуры — павінен быць рабочы, селянін. З'явы жыцця, што праходзяць у святле літаратуры, разглядаюцца з пункта гледжання гэтага героя. І гэта адна з перадумоў стварэння пралетарскай літаратуры.

Што да формы, дык выразныя, бліжэйшыя задачы ў творчым працэсе літаратуры, і шырэй — культуры, павінны зводзіцца да стварэння беларускіх нацыянальных стыляў (формы). Пытанне мовы павінна тут набыць першарадную значнасць, яно павінна быць пастаўлена адпаведнымі інстытуцыямі шырэй і іначай, як яно ставілася дагэтуль.

Нацыянальныя формы літаратуры, тэатра, музыкі, жывапісу — будуць толькі ўзвышаць яе, спрыяць яе развіццю. Наша літаратура ўсё больш будзе рабіцца магутным сродкам будаўніцтва жыцця і магутным фактам абуджэння да новага жыцця беларускіх сялян і рабочых. Тварыць гэтыя нацыянальныя формы — наша найадказнейшая задача.

Мінулае дзесяцігоддзе арганізавала сілы, вызначыла творчыя шляхі і палажыла пачатак новай беларускай літаратуры, літаратуры пралетарскай, літаратуры высокамастацкай.

Перамагаючы ўсе цяжкасці, беларуская пралетарская культура будзе ісці шляхам свайго далейшага магутнага развіцця.

## ЗАМЕСТ ПАШТОВАЕ СКРЫНКІ

Маладыя аўтары, што прысылаюць свае творы ў рэдакцыю, вельмі мала клапоцяцца пра мову сваіх твораў, пра стыль. Мова і стыль — гэта тыя формы, у якіх падаецца чытачу думка твора. Дык формы гэтыя павінны быць прыгожымі, удасканаленымі. Нямецкая літаратура мае свае адмысловыя формы, яна напісана на нямецкай мове. Расійская літаратура мае свае формы, яна на расійскай мове. Гэтаксама і ўкраінская літаратура, і японская, і ўсякая іншая. Тое ж самае — беларуская літаратура. Нашы аўтары павінны клапаціцца, каб іх літаратурныя творы былі літаратурным мастацтвам. Яны павінны пісаць чыстаю беларускаю моваю. І трэба заўсёды вывучаць сваю мову, прыслухоўвацца да народных гутарак. Гэтакі вялікі расійскі мастак слова, як Леў Талстой, усё сваё жыццё вывучаў расійскую мову — гэта значыцца, тую мову, якая была для яго роднаю і якою ён пісаў.

Некаторыя нашы аўтары, ведаючы добра літаратурную расійскую мову, калі пішуць свае творы, дык у галаве іх фармулююцца сказы ў расійскай мове, і тут жа, пішучы, яны перакладаюць іх на беларускую мову. Вядома, што стыль гэткага твора не будзе мець прыгажосці і сілы, а мова будзе няправільная.

Вось, дзеля прыкладу, сказ з аднаго рукапісу:

«Ноч бясшумна спусцілася на зямлю... Тысячы зор асвяцілі прастор ласкавым мігаючым светам і з халодным нямым пытаннем заглядваюць у душу, у глыбіню істоты, туда, дзе сэрца і нервы новазагартованым молатам адчыканіваюць гукі жыцця».

І яшчэ з таго самага апавядання словы і моўныя звароты:

«Выпаў снег», «састарэўся», «усё бачыўшай, усё адчуўшай рукой», «пчэлачку», «жалка»...

Калі аўтар піша беларускаю моваю, дык ён трэба, каб ведаў добра народную беларускую мову. Тады яго творы будуць мець беларускія нацыянальныя формы.

Тав. Сталін, гаворачы пра нашу, савецкую літаратуру, вызначыў, што яна павінна быць пралетарскаю ў змесце і нацыянальнай у форме.

Заўсёды аўтару гавораць: трэба апрацоўваць творы. Гэта значыцца, што трэба, каб аўтар не стараўся толькі абы-як выказаць думку свайго твора або абы-як паказаць

у творы якіх-небудзь людзей, расказаць пра што-небудзь. А павінен аўтар глядзець на тое, як ён выказвае, як паказвае. Мова твора павінна быць па-мастацку простаю, жывою — гэтакаю, якою яна жыве, а не прыдумліваецца. Адзін аўтар пісаў: «вецер распаўсюджваў пах кветак». Расійскае «распространять» у нас пішуць «распаўсюджваць» «распаўсюджваць газеты», «распаўсюджваць абліганыі»). У інструкцыі, у пратаколе, нарэшце ў артыкуле, дык гэткая мова яшчэ — паўбяды; але ў мастацкім творы, дык гэта вельмі суха і непрыгожа. Куды прыгажэй было б напісаць проста — «пахлі кветкі» або «дзьмуў вецер, і пахлі кветкі».

Некаторыя аўтары, захапіўшыся гэткаю моваю і думаючы, што для кніг яна патрэбна, пішуць, напрыклад, «зачыніў вочы», замест «заплюшчыў вочы» і да гэтага падобнае.

Трэба, каб творы пісаліся моваю жывою.

## КАМЕНТАРЫІ

У першы том шасцітомнага Збору твораў Кузьмы Чорнага ўвайшлі апавяданні і публіцыстыка 20-х гадоў. Большасць мастацкіх твораў публікавалася ў першых зборніках празаіка: «Апавяданні» (1925), «Срэбра жыцця» (1925), «Верасьнёвыя ночы» (1929).

У першае паслякастрычніцкае дзесяцігоддзе беларуская літаратурна-эстэтычная думка заваёўвала новыя вышыні. Абапіраючыся на вопыт барацьбы рэвалюцыйна-дэмакратычнай эстэтыкі з прыхільнікамі «мастацтва дзеля мастацтва», таленавітыя пісьменнікі ў 20-х гадах змагаліся за высокую грамадзянскую місію літаратуры, выступалі супраць яе вульгарызацыі мадэрністамі, якія ў паслякастрычніцкі час перафарбоўваліся ў чырвоны колер, не мяняючы сваёй сутнасці. Тэарэтыкаў Пралеткульта, «Кузніцы», Лефа, РАППа і БелАППа збліжае нігілізм у адносінах да пазнавальнай ролі мастацтва, яго вобразнай спецыфікі, да культурнай спадчыны. Як правіла, вульгарызатары зводзілі грамадскую місію мастацкай літаратуры да прымітыўнай агіткі, белетрызацыі агульнавядомых ісцін, слоўнага іх аздаблення.

Кузьма Чорны глыбока адчуваў гістарычныя патрэбы свайго народа і жыццятворную сілу Кастрычніка. У пісьменніка рана сфарміраваліся свае ўласныя адносіны да шматлікіх і зменлівых тэорый і канцэпцый, на якія былі багатыя 20-я гады. У артыкуле «Перад другім дзесяцігоддзем» К. Чорны выступіў супраць спрошчанага разумення жыццебудаўнічай функцыі мастацкай літаратуры: «Разуменне задачы літаратуры як «жыццебудаўніцтва» ёсць разуменне вялікае з'явы, прагрэсіўнае, дзейнае. Бо наш сённяшні дзень мае за сабой сваё мінулае і выразна ставіць задачы заўтрашняга. Таму і літаратура і тэатр не павінны «адбіваць эпоху» («адбіваць» — разумеюць — «адлюстроўваць») або «ставіць праблемы», а тварыць эпоху і вырашаць праблемы. Толькі гэтакім чынам літаратура будзе «жыццебудаўніцтвам», а не пазадкамі жыцця, будзе сапраўды зброяю ў руках пралетарыята».

Падкрэсліваючы, што літаратура сацыялістычнага рэалізму «робіцца і будзе рабіцца наймагутнейшаю з'яваю жыцця краіны, адным з сродкаў творчасці гэтага жыцця», К. Чорны разам з тым рэзка крытыкаваў усялякія спробы атаясамлівання літаратуры з вытворчасцю, ператварэння мастацкіх твораў у спрошчаныя агіткі. У 20-я гады пісьменнік імкнецца пазнаць і адлюстраваць заканамернасці ўздымання асобы чалавека ў эпоху сацыялістычных пераўтварэнняў. Абапіраючыся на творчы вопыт Л. Талстога, Ф. Дастаеўскага, Я. Купалы, Кузьма Чорны паказаў самарух чалавека працы. Ён аддаў шмат увагі пытанням разняволення і абуджэння аналітычнай думкі асобы, вызвалення людзей сацыяльнага дна з-пад уціску фаталістычнага светасузірання, пераадолення асобаю пасіўнасці і абыякавасці да сваёй будучыні, свайго лёсу. К. Чорны паказвае працэс пераплаўкі энергіі болю ў энергію асэнсавання дзеяння. На розных этапах ранняй творчасці К. Чорны надае больш увагі таму ці іншаму этапу духоўнага станаўлення асобы.

Паглыбленае даследаванне К. Чорным духоўных рэсурсаў самаруху асобы прыхільнікі «казённай радасці» сустрэлі варожа. «Жывы энтузіязм будаўніцтва, творчы ўздым замяняюцца на нікчэмнае калупанне ўнутры сваёй псіхікі і бясконцае, бязмежнае блуканне ў цеснай клетцы свайго індывідуальнага свету»,— пісаў пра новыя творы К. Чорнага Тодар Глыбоцкі ў зборніку артыкулаў «Пра нашы літаратурныя справы» (1928). Там жа ён абвяшчаў: «Вечар» — гэта пара пасля закату літаратурнага сонца К. Чорнага».

Сляды спрошчанага падыходу да псіхалагічных апавяданняў К. Чорнага рашуча пераадольвае сучаснае літаратуразнаўства. «Нельга не заўважыць,— піша В. Каваленка,— што ў ранніх апавяданнях К. Чорнага відушчасць, унутранае прасвятленне, што нараджае адчуванне сваяцкай зрошчанасці са светам, людзьмі, робіць чалавека багатым на асаблівы, востра-інтуітыўны зрок, прылучае яго да жывой душы ўсяго свету» (В. Каваленка, М. Мушынскі, А. Яскевіч. «Шляхі развіцця беларускай прозы. Агульны рух і асноўныя тэндэнцыі», Мн., «Навука і тэхніка», 1972, с. 104).

К. Чорны заўсёды імкнуўся вывесці чытача за межы бытавога разумення рэчаіснасці і чалавека. У першых апавяданнях ён імкнуўся раскрыць духоўную першаснову новага светаадчування — неўсвядомленае пачуццё радасці існавання, з якога пачынаецца сацыяльнае самасцвярджэнне чалавека ў гісторыі. У зборніку апавяданняў «Пачуцці» пісьменнік сродкамі псіхалагічнага аналізу даследуе духоўныя ўзлёты і крызісы пераломнага часу, характэрныя для прадстаўнікоў розных сацыяльных катэгорый. Па багацці і насычанасці тыпажом творы К. Чорнага нагадваюць творы

Я. Коласа. К. Чорны імкнецца пашырыць межы псіхалагічнага
аналізу, ён раскрывае знутры духоўны свет кожнага персанажа,
у той час як Колас звычайна сродкамі псіхалагічнага раскрыцця
стварае вобразы станоўчых герояў. К. Чорны хоча дакладна ве-
даць, якімі духоўнымі рэсурсамі валодае гарадскі поп Парфір
Кіяцкі, што ўзбунтаваўся супраць фальшу ў сваім жыцці, селя-
нін Макей Пілат, для якога вышэйшай пакутай з'яўляецца абавя-
зак сведкі на судзе, камуніст Мітрафан, у якім жалобная музыка
абуджае непрымірымы пратэст супраць казённых адносін да чала-
века, супраць звыклай абыякавасці блізкіх да хворага дзядзькі
Паўла («Парфір Кіяцкі»). У апавяданні «Вечар» раскрываюцца
духоўныя гарызонты маладой піяністкі, якая ў адзіноце рве сабе
душу выкананнем трагічных мелодый. Тут жа мы бачым вясёла-
га аптыміста сталяра, які шукае выйсце сваёй энергіі ў рабочым
клубе. Антыподам яму з'яўляецца яго ўласная жонка, заўсёды
шчодрая на «сытыя слёзы».
Сімпатыі пісьменніка застаюцца нязменна на баку людзей, што
ў «агні і бурах» уздымаюцца да яднання з пакрыўджанымі і
ідуць «да неперамежнай дзейнасці» ў імя светлай будучыні. Ду-
хоўна актыўнага чалавека К. Чорны свядома супрацьпастаўляе
не толькі ўласніку, але і тым тыпам, індывідуалізм якіх у літара-
туры часам падфарбоўваўся водбліскамі кніжнага рамантызму,
уяўнымі пакутамі з-за «марноты ўсясветнай». У апавяданні «Бяз-
донне» моцна звязаны з родным вясковым карэннем студэнт Алё-
ша разумее, што пячорынскі скепсіс выхадца з багатай мяшчан-
скай сям'і Андрэя Строніна — толькі маска раўнадушнага чалаве-
ка. Андрэй Сімовіч («Пачуцці») таксама адчуў, што рамантыка
вандроўнага жыцця прыгожай цыганкі Нонны пазбаўлена са-
праўднага сэнсу. Нонну задавальняюць імгненні забыцця ў пры-
годах ці ў арэоле прымы ў аперэце.
У псіхалагічных апавяданнях са зборніка «Пачуцці» К. Чорны
адлюстраваў працэс духоўнага станаўлення сацыяльна актыўнай
асобы. Пры гэтым пісьменнік не абышоў увагай і крызісных з'яў
і тупікоў, з якіх не змаглі знайсці выйсця адарваныя ад народа
інтэлігенты.
У другой палове 20-х гадоў К. Чорны імкнецца глыбока пра-
нікнуць у трагічныя супярэчнасці жыцця і чалавечай натуры.
У апавяданнях «Хвоі гавораць», якое дало назву аднайменнаму
зборніку, «Захар Зынга», «Буры», «Начлег ў вёсцы Сінегах» пісь-
меннік даследуе трагічныя калізіі чалавечага лёсу. Праз усе гэтыя
творы праходзіць думка аб тым, што ў змаганні за ўсталяванне
гарманічных адносін паміж людзьмі рашаючая роля належыць
чалавечай актыўнасці, што народная маса мае пільную патрэбу ў
разумных кіраўніках, якія глыбока разумеюць усю складанасць

жыццёвых супярэчнасцей, у якіх пераплялося трагічнае і смешнае, велічнае і нікчэмнае. У наступным зборніку — «Вераснёвыя ночы» — К. Чорны паказвае людзей, якія стаяць на адказным рубяжы свайго лёсу. Ім прыходзіцца мабілізаваць усе свае духоўныя рэсурсы, каб не паўтараць старых памылак, каб па-сапраўднаму ацаніць свае магчымасці ў творчасці новага жыцця ва ўмовах паслякастрычніцкай рэчаіснасці. Праблематыку гэтых твораў паглыбляюць напісаныя ў 1929 годзе апавяданні «Ліст Якуба Малькевіча» і «Справа Віктара Лукашэвіча». Героі гэтых твораў — таксама выхадцы з сацыяльнага дна, але яны сталі людзьмі вялікай духоўнай сілы. Селькор Якуб Малькевіч і служачы Віктар Лукашэвіч непрымірымыя да любой несправядлівасці. Гэта людзі, якія сталі абаронцамі прыніжаных і пакрыўджаных, яны вядуць усімі даступнымі ім сродкамі змаганне супраць чалавеканенавіснікаў — уласнікаў і бюракратаў, якія калечаць жыццё і душы людзей.

Цікавасць пісьменніка да маральна-палітычнай сутнасці канфліктаў, глыбокі сацыяльна-псіхалагічны аналіз — вось тыя якасці, дзякуючы якім творы К. Чорнага з'яўляюцца надзвычай актуальнымі ва ўмовах нашага часу.

## ЗМЕСТ

**Чорны К.**

Ч 75 Збор твораў: У 6 т. Т. I. Апавяданні, публіцыстыка, 1923—1930/ [Аўт. прадм. М. Стральцоў].— Мн.: Маст. літ., 1988.—431 с., 1 л. партр., 4 л. іл.

**ISBN 5-340-00377-9**

Кузьма Чорны — класік беларускай літаратуры. Майстар апавядання, аповесці, рамана.

Першы том Збору твораў склалі апавяданні і публіцыстыка 1923—1930 гадоў. Пафас ранняй творчасці — эмацыянальнае ўспрыняцце новага савецкага жыцця, паэтызацыя вызваленага рэвалюцыяй чалавека, яго працы і творчых сіл.

Ч $\frac{4702120200-020}{М 302(03)-88}$ 101—87 **ББК 84 Бел 7**

КУЗЬМА ЧОРНЫЙ

*(Николай Карлович Романовский)*

Собрание сочинений в шести томах

Том первый

РАССКАЗЫ

ПУБЛИЦИСТИКА

**1923—1930**



Минск, издательство «Мастацкая літаратура»

На белорусском языке

Рэдактар А. Дз. Куліш. Мастак Н. У. Сустава. Мастацкі рэдактар Л. Я. Прагін. Тэхнічны рэдактар А. Б. Барадзіна. Карэктары Н. У. Доваль, Т. М. Собалева.

ІБ № 2702

Здадзена ў набор 29.12.86. Падп. да друку 02.11.87. АТ 07723. Фармат 84×108$^{1}/_{32}$. Папера друк. № 1. Гарнітура звычайная новая. Высокі друк. Ум. друк. арк. 22,68+0,53 укл. Ум. фарб.-адб. 23,63. Ул.-выд. арк. 24,28. Тыраж 6000 экз. Зак. 3167. Цана 2 р. 20 к.

Выдавецтва «Мастацкая літаратура» Дзяржаўнага камітэта БССР па справах выдавецтваў, паліграфіі і кніжнага гандлю. 220600, Мінск, праспект Машэрава, 11.

Мінскі ордэна Працоўнага Чырвонага Сцяга паліграфкамбінат МВПА імя Я. Коласа. 220005, Мінск, Чырвоная, 23.